1 снежня 2017 | № 45 (559)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Верку Сярдзючку ў прэзідэнты!
Стар. 8








# Эміграцыя — здрада Радзіме ці...?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Апошнім часам сеціва скаланула інфармацыя пра дзяцей вядомых апазіцыйных дзеячаў, якія вучацца за мяжой. Паводле апытанкі, дарослых дзяцей заўважных апазіцыянераў у замежжы апынулася болей, чым у Беларусі. І панеслася... старая тэма зноў зайграла.**

Насамрэч, тэма, здаецца, ужо была перагавораная бясконцую колькасць разоў. Асноўны расклад наступны. Ехаць у «шэнгены» варта, бо Беларусь, маўляў, знаходзіцца ў непрагляднай цемрадзі дыктатуры — ну як тут жыць і гадаваць дзяцей? Іншы погляд цалкам палярны: калі ўсе з'едуць, дык хто ж застанецца? І што карысці Беларусі ад з'ехаўшых у горад па-над Віслай патрыётаў, якія памахалі Радзіме бел-чырвона-белай хусцінкай?..

Па-першае, важна ўсё ж такі вызначыцца, пра каго мы гаворым — пра шараговых суайчыннікаў, якія шукаюць лепшай долі, ці палітыкаў ды грамадскіх актывістаў? Мы жывём у сучасным глабальным свеце, дзе межы хоць нікуды і не зніклі, але сталіся больш умоўнымі, чым 10–20–50 гадоў таму. Пераразмеркаванне працоўнай сілы ў свеце даўно сталася дадзенасцю, таму заможныя дзяржавы і маюць зацікаўленасць у прыцягненні чалавечага рэсурсу з бяднейшых краін — інтарэсы супадаюць.

Ці гэта праблема? Так, праблема. У выніку маем старэючую нацыю, пазбаўленую найбольш рухавага ды ініцыятыўнага сегменту — моладзі, якая хоча працаваць і не баіцца рызыкнуць. Ці можна з гэтым нешта зрабіць? Рэцэпт адзіны: ствараць працоўныя месцы, рабіць атмасферу больш вольнай для прыватнай ініцыятывы ды самарэалізацыі кожнага асобнага грамадзяніна.

Іншая справа — выезд грамадскіх дзеячаў ды іх дзяцей. А што з гэтым не так? На жаль, падобны «сыход» ужо стаў тэндэнцыяй ды сфармаваў сам вобраз апазіцыі як трампліну ў «цёплыя краіны». Не верыце? Спытайце ў любога вязня, які сядзеў «за палітыку», пра стаўленне сукамернікаў — і пачуеце, што яму... зайздросцілі! «Выйдзеш — і валі хутчэй адсюль, вы ж апазіцыя, вас прымуць!»

Андрэй Дынько неяк назваў падобнае стаўленне заходніх дзяржаваў «падушкай бяспекі» для беларускай грамадзянскай супольнасці. Найбольш яскравая праява падобнага стаўлення — Праграма Каліноўскага, створаная ў Польшчы 10 гадоў таму акурат для студэнтаў, што не змаглі давучыцца ў Беларусі альбо зазналі рэпрэсіі. Адначасна праграма сталася лёгкай сцежкай для дзяцей партыйных функцыянераў, каб вучыцца на Захадзе. Вядомыя і выпадкі фальсіфікацыя сведчанняў пра рэпрэсіі ды адлічэнні з ВНУ, каб толькі трапіць на вучобу ў Варшаву, Лодзь ці Кракаў.

Адзін стары сябар, які прасіў некалі палітычнага прытулку ў Чэхіі праз крымінальную справу, заведзеную супраць яго на Радзіме, распавядаў цікавыя тэматычныя гісторыі. Напрыклад, пра адмысловых «паліткансультантаў», якія вучаць ахвочых атрымаць прытулак, як ладна распавядаць прыгожую легенду пра сваю бурлівую дзейнасць у Беларусі — каб чэхі паверылі. Чэхі — вераць, а схема працуе.

Падобная ж гісторыя была ў Бельгіі, калі там у пэўны момант пачало з'яўляцца безліч бежанцаў з пасведчаннямі БНФ. Калі бельгійскі бок звярнуўся да кіраўніцтва партыі, там былі ў шоку: «Хто ўсе гэтыя людзі?!» Самае смешнае, што на некаторых «пасведчаннях» вынаходлівыя авантурысты замест Пагоні ставілі выяву дзяржаўнага гербу Беларусі... Праўда ж, якая бельгійцам розніца?

Але ж ёсць і сапраўдныя ўцекачы «за палітыку», якія сутыкнуліся тут з адлічэннямі, адсідкамі, шантажом і г.д. Яны едуць, бо не бачаць тут свайго «заўтра», стаміліся ад праслухоўвання, прэвентыўных арыштаў ды іншых «цукерак» з боку дзяржавы. Частка з уцекачоў усё ж такі разлічвае вярнуцца, калі «ўсё скончыцца», а за гэты час набыць на Захадзе адукацыю і досвед. Ці вернуцца? За ўсіх не адкажаш, але неяк цяжка верыцца, каб на наступны дзень пасля змены ўлады ў Беларусі тысячы «палітуцекачоў» пачалі прадаваць кватэры ў Празе ці Варшаве, забіраць дзяцей з дзіцячых садкоў ды пакаваць чамаданы.

Усё гэта змрочныя бакі эміграцыі, якая мае безліч колераў, адценняў і тонаў. Нельга тут абмінуць і яшчэ адзін вектар: унутраную эміграцыю. Тых, хто першымі крычаць: «Вы з'ехалі, а мы тут змагаемся!» часцяком падмывае перапытаць: «Што ж канкрэтна сёння вы назмагалі? Каго перамаглі? Што зрабілі для Радзімы?» Апынецца, што вялізная частка падобных крытыкаў — усяго толькі эмігранты-няўдачнікі, што самі хацелі з'ехаць, але не змаглі, збаяліся, не рызыкнулі. І выхад застаўся адзін: эміграцыя ў алкаголь, хатнія клопаты, на дачу ці яшчэ куды. Беларушчыны і свабоды ад гэтага дакладна болей не стала.

Падводзячы сімвалічную рысу пад бяздоннай і балючай тэмай эміграцыі, варта згадаць стары біблейны прынцып: кожнае дрэва пазнаецца па пладах сваіх. Ёсць пазітыўныя прыклады нашых структураў у ЗША і Вялікабрытаніі, якія дзесяцігоддзямі збіралі, захоўвалі ды ўзбагачалі беларускую культуру. Ёсць прыклад айца Аляксандра Надсана, які з-за мяжы каардынаваў дапамогу дзецям Чарнобыля, хоць на Радзіме яго кляймілі як калабаранта ды агента незразумела якіх выведак.

Хочаш рабіць нешта для Беларусі? Рабі, жывеш ты ў Нью-Джэрсі ці ў Лунінцы — якая розніца. А калі едзеш для сябе і свайго камфорту, каб знікнуць для Беларусі назаўжды — едзь, адно не прыкрывайся прыгожымі лозунгамі пра палітыку, рэпрэсіі ды «апошнюю дыктатуру ў Еўропе».



Фота www.emigrant.guru

# Адгукніцеся, хто ведаў першую абаронцу Курапатаў Лідзію Яцук

Марат ГАРАВЫ

**Больш за год таму ў мы надрукавалі артыкул «НКУС забіваў у Курапатах, нават калі нацысты ўвайшлі ў Мінск». У артыкуле, што меў вялікі розгалас, апублікаваныя ўспаміны 82-гадовай Лідзіі Раманаўны Крывіцкай, якая стала жыве ля самых Курапатаў з 1939 года.**

Як сведка шматлікіх падзеяў у лясным урочышчы, штосьці пра трагедыю ў глухім хваёвым бары яна даведалася ад сваёй маці, нешта — ад аднавяскоўцаў, шмат што спадарыня Лідзія ведае сама. Амаль усё сваё жыццё яна жыве на адным месцы — да вайны яно называлася вёскай Зялёны Луг (зараз сталічны мікрараён).

З расповеду Лідзіі Крывіцкай вынікае, што хаця большасць жыхароў вёскі Зялёны Луг, якія працавалі ў аднайменным саўгасе, верылі ў тое, што за плотам пралетарская ўлада насамрэч забівае ворагаў народу, і падтрымлівалі гэтыя захады савецкай дзяржавы, аднак у саўгасе знайшліся людзі з іншым меркаваннем.

Яшчэ раз звернемся да гэтага фрагменту ўспамінаў Лідзіі Раманаўны:

### Першы герой Курапатаў — смелая Лідзія Яцук

Праз колькі гадоў пасля вайны ў вёсцы пайшла пагалоска, што на курапацкіх пагорках спілуюць лес, пні выкарчуюць, а тэрыторыю бульдозерамі выраўняюць пад раллю. Супраць гэткіх планаў паднялася адважная жанчына, рабочая саўгасу Лідзія Яцук прыкладна 1913–1914 гадоў народзінаў, якая адна выхоўвала сына, бо муж загінуў на вайне, як і мой бацька. Гэтая ўдава анікога не баялася і адкрыта казала, што нельга араць Курапаты, бо там увесь лес на касцях, а поля ў саўгасе і так зашмат, толькі працоўных рук бракуе. Менавіта Лідзія Яцук вымусіла тагачаснага дырэктара саўгаса, былога партызана, чалавека прыстойнага (імя і прозвішча яго не памятаю) пайсці на прыём да адпаведнага міністра, каб скасаваць гэтыя планы. І, як ні дзіўна (гэта ж былі сталінскія часы!), настойлівасць смелай Лідзіі Яцук дала свой плён — пасля таго, як міністр наведаў нашы мясціны, улады адмовіліся ад планаў узараць Курапаты і пакінулі гэтае месца ў спакоі, а потым вырашылі пашыраць ва ўрочышчы плошчы пад пасадкі лесу.

А паколькі так і адбылося, Лідзію Яцук можна з поўным правам лічыць першай гераіняй Курапатаў, якая сваёй рашучасцю выратавала гэтае святое месца і захавала яго для нашчадкаў.

Зараз актывісты ініцыятывы даследуюць фонды Дзяржаўнага архіву Мінскай вобласці, каб знайсці дадатковыя звесткі пра Лідзію Яцук.

На пачатку наступнага года «Эксперты ў абарону Курапатаў» мяркуюць заснаваць штогадовую прэмію Лідзіі Яцук за абарону Народнага мемарыяла, за найбольш грунтоўныя і цікавыя даследаванні Нацыянальнага некропалю.

Звяртаемся да беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне і за яе межамі, з просьбаю падзяліцца сваімі ўспамінамі пра гэтую адважную жанчыну, дзякуючы якой на паўночна-ўсходнім ускрайку Мінска захаваўся стары хваёвы бор, дзе 10 гадоў адбываліся расстрэлы ахвяраў сталінізму, у тым ліку самых працавітых, таленавітых і адукаваных сыноў і дачок Беларусі.

Адгукніцеся, калі ласка! Пішыце на адрас kurapaty@bielarus.by, званіце на тэлефон 8-029-27-64-0-64.

# «Справа патрыётаў» спыненая

Сяргей ПУЛЬША

**Пра спыненне крымінальнай справы паведаміў 30 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Магілёве кіраўнік Следчага камітэта Іван Наскевіч.**

«Рашэнне аб спыненні крымінальнага пераследу ўсіх фігурантаў справы так званага «Белага легіёну» прынята 27 лістапада. Мы лічым, што гэтым пастаўленая кропка. Матэрыялы накіраваныя пракурору для вывучэння і ацэнкі законнасці прынятага рашэння. Фігуранты пачалі азнаямленне з пастановай аб спыненні крымінальнай справы і яе матэрыяламі», — распавёў Наскевіч.

«Мне вядома, што крымінальны пераслед спынены, справа перададзеная ў пракуратуру. Я пакуль ніякіх папер не атрымліваў — толькі следчы сказаў, што папера мне накіраваная. Пакуль усё, што я ведаю, я ведаю са СМІ», — адзначыў асноўны фігурант гэтай справы і «галоўны падазраваны» Міраслаў Лазоўскі.

«Спачатку трэба атрымаць паперку. Самае галоўнае, каб юрыдычна падкаваныя людзі, адвакаты, сказалі, што гэта і як. Мне незразумела, што значыць «перададзеная ў пракуратуру». Спыненая крымінальная справа ці спынены крымінальны пераслед? Я ў гэтых юрыдычных нюансах не цямлю, таму, пакуль я не пабачу паперы і не сустрэнуся з адвакатам, дык папросту не магу казаць. Бо я ў гэтым, шчыра кажучы, нічога не разумею. Гэта як запытаць у мяне пра астрафізіку», — кажа Міраслаў.

Прыкладна тое ж самае адказаў Андрэй Дундукоў. «Наконт «пачалі азнаямленне з матэрыяламі крымінальнай справы», — дык яшчэ не пачалі. Мне сказалі, што днямі мне павінна прыйсці папера пра тое, што нібыта ў нашых дзеяннях няма складу злачынства. Але я яшчэ нічога не атрымліваў. Трэба сёння вечарам у паштовую скрыню зазірнуць», — гаворыць Дундукоў.

Дундукоў пакуль не вызначыўся, ці будзе дамагацца кампенсацыі ці нейкіх выбачэнняў за арышт і праведзены ў следчым ізалятары час.

«Пакуль нічога не было. Мне сёння патэлефанаваў зранку нейкі дзядзька з «Радыё Свабода», дык ад яго я пра гэта і даведаўся. Парадаваў, бо я нават навіны не глядзеў. Так што мяне вызваліла «Радыё Свабода», — распавёў Андрэй Комлік-Ямацін.

Далейшыя свае крокі Комлік-Ямацін яшчэ будзе ўзгадняць з адвакатам. «Трэба размаўляць з адвакатам, што там і як, яна лепш будзе ведаць. Я пакуль не ведаю. Нейкую скаргу на беларускае тэлебачанне (БТ па «Справе патрыётаў» зрабіла прапагандысцкі фільм «Белы легіён чорных душаў». — Аўт.) пададзім дакладна... Наконт астатняга будзем размаўляць. Я не юрыст, таму не ведаю, як гэта ўсё робіцца», — кажа Андрэй.

Нагадаем, 21 сакавіка Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў краіне былі затрыманыя некалькі дзясяткаў баевікоў, якія «трэніраваліся ў лагерах са зброяй» у Беларусі і за мяжой, а таксама рыхтавалі правакацыі і масавыя беспарадкі. Затрыманні патрыятычна скіраваных актывістаў пачаліся толькі пасля гэтай заявы.

У выніку па справе аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў праходзілі 35 чалавек. З іх 20 абвінавачваліся яшчэ і паводле артыкулу аб незаконным узброеным фармаванні.

Фігуранты «Справы патрыётаў» даведаліся пра спыненне ў дачыненні да іх крымінальнай справы, збольшага, з прэсы. І пакуль дакладна не ведаюць, з якой фармулёўкай яе спынілі. Прынамсі ніякіх папер фігуранты справы пакуль не атрымлівалі. Не вызначыліся яны і з тым, ці будуць дамагацца кампенсацыі за месяцы ў турме.

Дзяржаўныя тэлеканалы паказалі кадры ператрусаў і выняцця зброі. Эксперты ўбачылі ў гэтай зброі паляўнічыя стрэльбы ці прылады для страйкболу. Газета «СБ. Беларусь Сегодня» пісала, што фігуранты адпрацоўвалі баявыя навыкі, вялі ідэалагічную падрыхтоўку і называлі сваёй мэтай «абарону краіны ад агрэсара».

Удакладнялася, што справа пачалася з ліста нейкай «фраў А.» на імя кіраўніка Беларусі: грамадзянка Германіі з беларускімі каранямі паведаміла аб «правакацыях», якія рыхтаваліся 25 сакавіка ў Мінску.

У чэрвені КДБ спыніў крымінальны пераслед фігурантаў справы паводле артыкулу «масавыя беспарадкі», а расследаванне пра ўзброенае фармаванне перадалі Следчаму камітэту (дарэчы, гэта першая справа з такім артыкулам у краіне). Тады ж фігурантаў паступова выпусцілі з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе і неразгалошванні. З некаторых знялі абвінавачванні зусім. Але расследаванне працягвалася.

Пры гэтым кіраўнік КДБ Валерый Вакульчык у чэрвені папярэджваў, што «пакуль заўчасна казаць, ці дойдзе да суда справа «Белага легіёну», а старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч абяцаў «на працягу восені» паставіць у ёй кропку.

# «Чыноўнікі — гэта такія ж людзі...»

Сямён ПЕЧАНКА

**Як прымусіць чыноўнікаў працаваць, і чаму зламаны ліфт можа прывесці да шырокіх пераменаў у грамадстве? Гэтыя і іншыя пытанні абмяркоўваліся на Форуме рэгіянальнага развіцця ў Віцебску.**

Мерапрыемства было арганізавана кампаніяй «Гавары праўду», у ім прынялі ўдзел больш за 150 чалавек. Яны дзяліліся досведам паспяховага вырашэння праблем рэгіёну, а таксама давалі парады па ўзаемадзеянні з уладамі і чыноўнікамі.

Эканаміст Сяргей Чалы патлумачыў, чаму ўлады ініцыявалі падпісанне дэкрэта аб самазанятасці і дэкрэту аб спрашчэнні ўмоў вядзення бізнесу. «Уладамі быў змарнаваны час для правядзення рэформаў, — адзначыў Чалы. — З 2014 года назіраюцца масавыя скарачэнні на дзяржпрадпрыемствах. Калі да апошняга часу малы і сярэдні бізнес мог акумуляваць звольненых з прадпрыемстваў, то ў апошнія два-тры гады ў бізнесу з'явіліся ўласныя праблемы, звязаныя ў першую чаргу з агульным крызісам і з падзеннем плацежаздольнасці насельніцтва. Сітуацыя выглядае песімістычна. І, па маіх назіраннях, да бліжэйшых прэзідэнцкіх выбараў Лукашэнка не будзе праводзіць ніякіх рэформаў. Адпаведна, сітуацыя будзе толькі пагаршацца».

На думку эканаміста, улады спрабуюць вырашыць праблему, пра што кажуць зробленыя крокі па самазанятасці і ў сферы бізнесу. «Гэта ўсведамленне праблемы і спробы выправіць сітуацыю. Але гэтыя крокі не будуць эфектыўныя, таму што час страчаны», — лічыць эканаміст.

Асобны блок быў прысвечаны канкрэтным праблемам Віцебска. Віцебская ўрбаністка Аксана Кузіна распавяла пра тое, як правільна весці дыялог з уладамі. На яе думку, важна гаварыць з чыноўнікамі на іх мове. «Трэба вывучаць нарматыўна-прававую базу па пытанні, якое вас цікавіць. Тады праца ідзе нашмат прасцей, чым калі гэта адбываецца проста на эмоцыях», — раіць Кузіна.

А жыхарка Бешанковічаў Алена Качан падзялілася досведам вырашэння канкрэтнай праблемы — адсутнасці гарачай вады ў горадзе. «Для гэтага дастаткова было ўсяго толькі сабраць 30 подпісаў пад петыцыяй, і пасля гэтага ўлады досыць хутка вырашылі пытанне, — адзначыла яна. — Усе праблемы можна вырашыць, калі проста за іх узяцца. І збор подпісаў бывае эфектыўным».

Віцебскі рэгіянальны каардынатар «Гавары праўду» Лідзія Сагідуліна адзначыла, што грамадзяне часам самі не імкнуцца ісці на кантакт з уладамі. «Праблемы ёсць, але людзі проста лянуюцца прыйсці на прыём да чыноўніка, напісаць калектыўны зварот, які, як паказвае практыка, бывае эфектыўным, — адзначае актывістка. — Людзям трэба зразумець, што яны самі могуць вырашаць свае праблемы, не чакаць ад уладаў і чыноўнікаў, што хтосьці паклапоціцца пра іх праблемы».

У якасці прыкладу яна прывяла дэкрэт №3, які ў Віцебску абмяркоўвалі ў прысутнасці памочніка кіраўніка дзяржавы: «На гэтую сустрэчу практычна не прыйшлі жыхары Віцебска, хоць гэты рэгіён адзін з самых пацярпелых ад беспрацоўя, — адзначыла Сагідуліна. — Гэта значыць, людзі самі не ідуць да чыноўнікаў, якія хочуць вырашыць набалелую праблему».

Экс-кандыдатка ў прэзідэнты Таццяна Караткевіч адзначыла, што галоўная задача — павярнуць уладу тварам да народа. Яна заклікала людзей да самаарганізацыі і стварэння супольнасцяў. «Пачынаць можна з уласнага дома, — лічыць Караткевіч. — Ад вырашэння праблемы непрацуючага ліфта можна перайсці да вырашэння праблем двара, вуліцы, квартала. Гэта тая кропка росту, якая дазволіць перайсці да больш шырокіх пераменаў у грамадстве».

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Лічбы, і толькі лічбы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пачатак снежня неяк ужо настройвае на падвядзенне вынікаў мінулага года. А лічбы нам кажуць пра тое, як мы будзем жыць далей. На вялікі жаль, зменаў да лепшага пакуль не прадбачыцца.**

Чым важныя лагічнае мысленне і матэматыка? Тым, што лічбы цяжка аспрэчыць. І адначасова яны даволі эфектыўна выкрываць розныя маніпуляцыі. Напрыклад, кажуць нам, што насельніцтва аплачвае толькі 60% паслуг ЖКГ, і ў той жа час нават Аляксандру Лукашэнку камунальнікі не здолелі прадставіць разлік поўнай аплаты гэтых паслуг. Атрымліваецца, што 100% аплаты паслуг мы не ведаем. Дык адкуль жа бярэцца лічба ў 60% «ад невядомага»?

Таму лічбам трэба надаваць больш увагі, разважаць пра іх, хаця гэта і цяжка. Напрыклад, Цэнтрвыбаркам абвясціў пра заканчэнне фармавання тэрытарыяльных выбарчых камісій на выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Гэтыя выбары, як вядома, пройдуць ужо ў наступным годзе. У склад 1309 ТВК увайшлі 11167 чалавек. З іх — толькі 34 прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партый. Агульная ж лічба прадстаўнікоў палітсілаў у ТВК, паводле дадзеных кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», — 125 чалавек.

Што гэта азначае насамрэч? Тое, што выбары пройдуць традыцыйна, бо ў камісіі не ўключылі самых зацікаўленых у іх выніках асобаў. А калі яны пройдуць так, як і заўсёды, дык і вынік будзе такім самым, як і ў папярэднія гады, — то бок мясцовая ўлада застанецца малаэфектыўнай і не здольнай вырашаць праблемы грамадзян. Як зараз. А значыць, нас чакае яшчэ шмат скандалаў і канфліктаў з нагоды розных «ушчыльняльных забудоў», вырубкі дрэваў і іншых спрэчных момантаў, якія маглі б быць вырашаныя без гвалту і пылу. Калі б у нас была нармальная мясцовая ўлада, канешне.

Аляксандр Рыгоравіч на мінулым тыдні падпісаў асноўны дэкрэт пра развіццё прадпрымальніцтва. Можна колькі заўгодна разважаць пра тое, спраўдзіцца ён ці не. Але для канчатковай высновы будзе дастаткова толькі адной фразы з лексікону біржавых брокераў: «Рынак адрэагаваў падзеннем». Паводле звестак Белстата, на 1 лістапада 2017 года ў Беларусі дзейнічала 141,1 тысячы юрыдычных асоб і 244,3 тысячы індывідуальных прадпрымальнікаў. Колькасць юрыдычных асоб у параўнанні з 1 лістапада 2016 года знізілася на 1,1%, ІП — на 2,3%. З пачатку года колькасць юрыдычных асоб зменшылася на той жа 1,1%, ІП — на 1,3%.

Калі колькасць нават зарэгістраваных прадпрымальнікаў скарачаецца, гэта значыць, даверу да дакументу няма і людзі «прыкрываюць лавачку». А колькі яшчэ не закрываецца афіцыйна, а проста не працуе?

У той жа час у Маладзечне быў праведзены пробны этап перапісу насельніцтва, які скончыўся амаль скандалам. Паводле афіцыйных звестак, на канец верасня бягучага года ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя ў раёне склаў 1,3%. А падчас апытання 9,1% жыхароў Маладзечна адказалі, што яны беспрацоўныя, і яшчэ 5,5% адмовіліся адказваць на пытанне па занятасці і па крыніцах існавання.

То бок, на самай справе 14,6% маладзечанцаў можна лічыць беспрацоўнымі. Што больш чым у 10 разоў вышэй за афіцыйны паказчык.

**9,1 %**

**маладзечанцаў у час «пробнага этапу перапісу насельніцтва» прызналіся, што яны беспрацоўныя. А па афіцыйных звестках, узровень зарэгістраванага беспрацоўя ў раёне на канец верасня — 1,3%**

Гэта ўсё, што трэба ведаць пра нашу статыстыку па беспрацоўі.

Затое дзе беспрацоўных няма — дык гэта сярод чыноўнікаў. «Аптымізацыя дзяржапарату скончана, чыноўнікі вяртаюцца на свае месцы», — піша партал banki24.by.

У першыя 8 месяцаў 2017 года ў сферы дзяржкіравання больш звальнялі, чым наймалі. За адзін толькі жнівень працы пазбавіліся 5544 чалавекі, з якіх 777 — з-за ліквідацыі арганізацыі або скарачэння штата. Але з верасня ў дзяржкіраванні сталі прымаць больш, чым звальняць. За першы месяц восені гэтая сфера на чыстай аснове папоўнілася 1088 работнікамі, за другі месяц — яшчэ 488. То бок, на працоўныя месцы вярнуліся тыя людзі, якіх вывелі за штат дзяржслужбы.

Тым часам у цэлым сітуацыя з занятасцю ў эканоміцы далёкая ад ідэальнай. Скарачэнне занятасці ў Беларусі ідзе з ліпеня 2011 года. З таго часу па кастрычнік 2017 года эканоміка Беларусі пазбавілася 337,1 тысячы работнікаў. А працоўныя месцы ствараюцца вельмі млява. За 10 месяцаў 2017 года колькасць работнікаў, пераведзеных на дадаткова ўведзеныя працоўныя месцы пасля стварэння новых вытворчасцяў, склала ўсяго 2239 чалавек.

У той час, як кіраўніцтва краіны і ўрад нам абяцалі па 50 тысяч новых працоўных месцаў штогод.

Але ж растучую армію чыноўнікаў трэба нечым карміць, праўда? Па інтэрнэце гуляе сумны жарт: «Восень заканчваецца, а нам яшчэ не прыдумалі новага падатку». Можа быць, убачыўшы гэта, былы мэр Мінска і дырэктар «Мотавелазавода» Мікалай Ладуцька вырашыў выправіць сітуацыю. Ён прапанаваў увесці для раварыстаў «утылізацыйны збор» на вела- і мотапрадукцыю, аналагічны аўтааматарскаму. «Што стварыць умовы для развіцця айчыннай вытворчасці», — цытуе словы Мікалая Ладуцькі БелТА.

Па мне, дык ніводны падатак не здольны стварыць умовы для развіцця вытворчасці. Яе развіццё магчымае, толькі калі наша прадукцыя не будзе крывой, а пачне адпавядаць якасці і цэнаваму сегменту.

Дый як і каго абкладаць гэтым падаткам? ДАІ будзе «тармазіць» кожнага раварыста і запытвацца ў яго дакументы на ўтылізацыйны збор? Глупства. «Утылізацыйны збор» будзе закладзены ў кошт ровара? Гэта прывядзе толькі да таго, што ровары, у тым ліку і айчынныя, падскочаць у цане, і, адпаведна, не вельмі багатае насельніцтва альбо адмовіцца ад іх набыцця, альбо пачне цягаць іх з-за мяжы. Другое — больш верагодна, і выкліча адток валюты і скарачэнне попыту на ровары ў Беларусі. Скарачэнне попыту азначае скарачэнне вытворчасці. Ці, можа, скарачэнне вытворчасці і ёсць, паводле Ладуцькі, развіццё?

Ёсць яшчэ адзін спосаб падсілкаваць чыноўніцтва — прадаць што-небудзь непатрэбнае. Але і з гэтым ужо вялікія праблемы. У Гомелі прайшоў форум рэгіянальнага развіцця, і на ім як мясцовы эканаміст і наш аўтар Аляксей Харкевіч, так і мінскі эканаміст Сяргей Чалы сышліся ў меркаванні, што прыватызацыя буйных прамысловых прадпрыемстваў у Беларусі ўжо, верагодна, немагчымая. Айчынныя прадпрыемствы ўжо не ўяўляюць для інвестараў такой вялікай цікавасці, як гэта было яшчэ 10 гадоў таму. Паказальна, што і на ўзроўні ўладаў размовы аб магчымых продажах таксама не вядуцца.

Так што ў наступны год з намі застанецца ўсё тая ж праблема. Гучыць яна проста: «Дзе ўзяць грошы?»

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Уплывовая міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International пачала кампанію ў падтрымку беларускага палітвязня і патрабуе неадкладна яго вызваліць.**

Нагадаем, што Amnesty International раней прызнала Дзмітрыя Паліенку вязнем сумлення. У канцы красавіка 2016 года каля 35 раварыстаў праехалі па цэнтральных вуліцах Мінска ў знак пратэсту супраць правілаў дарожнага руху, якія абмяжоўваюць свабоднае перамяшчэнне на роварах. Прабег быў перапынены міліцыяй з ужываннем сілы. Паліенка быў адзіным з удзельнікаў, каму былі прад'яўленыя крымінальныя абвінавачванні. 12 кастрычніка 2016 года суд Цэнтральнага раёна горада Мінска прысудзіў Паліенку да двух гадоў умоўна.

Пасля ўдзелу Паліенкі ў абароне Курапатаў і маршах раззлаваных беларусаў суд Заводскага раёна Мінска замяніў умоўны тэрмін на рэальны. Тэрмін зняволення, які Паліенка адбывае ў Бабруйскай калоніі, заканчваецца ў кастрычніку 2018 года.

На думку Amnesty International, усе выстаўленыя абвінавачанні не адпавядаюць рэчаіснасці, і Дзмітрый Паліенка знаходзіцца ў зняволенні выключна за мірнае ажыццяўленне сваіх правоў на свабоду выказвання і свабоду сходаў.



## Андрэй Вабішчэвіч

**Жыхар Пінска выйграў грамадзянскі іск супраць Пінскага ГАУС і Міністэрства фінансаў Беларусі.**

У канцы сакавіка па краіне пракаціліся выступы «недармаедаў». Вабішчэвіч быў затрыманы каля ўваходу ў краму ля плошчы Леніна ў Пінску, дзе праходзіла акцыя. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве.

У судзе пінчук змог даказаць сваю невінаватасць. А ў канцы кастрычніка выйграў грамадзянскі іск супраць Пінскага ГАУС і Мінфінана Беларусі. Суд абавязаў казну краіны кампенсаваць хлопцу выдаткі на паслугі адваката і судовую пошліну.

Пакуль што гэта рашэнне законную моц не набыло — пракурор Пінскай міжраённай пракуратуры вынес касацыйны пратэст і адрасаваў яго ў Брэсцкі абласны суд. Пракурор просіць адмяніць судовае рашэнне, бо, па яго меркаванні, у матэрыялах грамадзянскай справы няма дакумента дзяржаўнага органа, які б пацвердзіў незаконнасць дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі.

Але ж суд Пінска і Пінскага раёна пастанавіў, што пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні быў складзены супрацоўнікам Пінскага ГАУС незаконна, і яго дзеянні з'яўляліся неправамернымі.

«Мяркую, што, падаючы пратэст, пракурор проста хоча, каб у Пінску не стварылася прэцэдэнт. Бо рашэнні па справах, падобных на маю, па ўсёй Беларусі выносіліся на карысць праваахоўнікаў», — паведаміў Вабішчэвіч.



## Алена Купчына

**Пасол Беларусі ў Аўстрыі і сталая прадстаўніца пры міжнародных арганізацыях у Вене абраная фактычным старшынёй Генеральнай канферэнцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па прамысловым развіцці (ЮНІДА).**

У Вене 27 лістапада пачала работу 17-я сесія ЮНІДА. У канферэнцыі ўдзельнічае каля двухсот дэлегацый дзяржаў-чальцоў ЮНІДА, устаноў сістэмы ААН, міжурадавых і няўрадавых арганізацый. Купчына абраная старшынёй сесіі і будзе выконваць абавязкі старшыні арганізацыі да наступнай чарговай сесіі ЮНІДА ў 2019 годзе.

Прадстаўніца Беларусі ўпершыню абраная на пасаду кіраўніка сесіі галоўнага палітычнага органа ўніверсальнай міжнароднай арганізацыі сістэмы ААН.

Генеральная канферэнцыя з'яўляецца вышэйшым органам ЮНІДА, што вызначае кіруючыя прынцыпы і палітыку арганізацыі на бліжэйшыя два гады. Яна ўхваляе праграму працы, рэгулярны і аператыўны бюджэты, сочыць за эфектыўным выкарыстаннем фінансавых рэсурсаў ЮНІДА.

# Што выявіў Брусельскі саміт «Усходняга партнёрства»

Валерый КАРБАЛЕВІЧ



**Брусельскі саміт «Усходняга партнёрства» дае падставы для падвядзення некаторых, няхай і папярэдніх, вынікаў гэтага праекта ЕС.**

Мэта, якую ставіў Еўрасаюз у 2009 годзе, зацвярджаючы праграму «Усходняга партнёрства» (УП), палягала ў тым, каб стварыць на сваёй усходняй мяжы зону дэмакратычных, рынкавых, праеўрапейскіх краін. Тым самым ЕС зрабіў рашучы ход, які сведчыць пра гатоўнасць уступіць у канкурэнцыю з Расіяй за кантроль над рэгіёнам Усходняй Еўропы і Закаўказзя.

Прайшло восем гадоў. Што атрымалася?

Тры дзяржавы (Грузія, Малдова, Украіна) з шасці краін-партнёраў узялі курс на інтэграцыю ў еўрапейскую прастору, падпісалі пагадненне аб асацыяцыі з ЕС. Яны маюць бязвізавы рэжым з ЕС, зону вольнага гандлю. На Брусельскім саміце ім прапанаваны новы этап інтэграцыі — прыярытэтнае партнёрства. Пры правядзенні неабходных рэформаў гэты фармат прадугледжвае далучэнне да мытнага, энергетычнага і лічбавага саюза ЕС, шэнгенскай зоны, агульнай авіяпрасторы.

Здавалася б, вынік нядрэнны. Аднак якім коштам ён быў дасягнуты? Непасрэдным вынікам рэалізацыі УП стаў украінскі крызіс, рэзкая дэстабілізацыя рэгіёну, «халодная вайна» паміж Расіяй і Захадам.

У дзвюх краінах-партнёрах (Азербайджане і Беларусі) не выявіўся прагрэс у плане набліжэння да еўрапейскіх каштоўнасцяў. У Азербайджане нават адбыўся адкат. За час існавання УП колькасць палітвязняў у гэтай краіне павялічылася ў разы.

Адбыўся глыбокі геапалітычны і каштоўнасны раскол удзельнікаў УП. Калі Грузія, Малдова і Украіна падпісалі пагадненне аб асацыяцыі з ЕС, то Беларусь і Арменія ўступілі ў Еўразійскі эканамічны саюз на чале з Расіяй. І ў вонкавай, і ва ўнутранай палітыцы краіны-ўдзельніцы УП выбралі дыяметральна супрацьлеглыя вектары развіцця. Адны — у Еўропу, другія — у Азію.

Такім чынам, рэалізацыя УП дала зусім не прадбачаныя, не плануемыя, нечаканыя наступствы. Яна стала каталізатарам дыферэнцыяцыі рэгіёну. Палітычная, геапалітычная, каштоўнасная мяжа паміж Еўропай і Азіяй не супадае з геаграфічнай.

Чаму так здарылася, што планавалі адно, а атрымалі іншае? Мабыць, сама зыходная канцэпцыя УП не была досыць добра сфармуляваная, вывераная, не былі пралічаныя ўсе магчымыя наступствы прапанаванага праекта.

Калі распалася камуністычная сістэма, разваліліся СССР і савецкі блок, то Еўрапейскі саюз і NATO расчынілі свае дзверы для былых сацыялістычных краін. Але ў абмен на глыбокія эканамічныя і палітычныя рэформы. І яны былі там праведзеныя. Бо быў моцны стымул: стаць часткай самага багатага і ўладкавана свету, атрымаць значную фінансавую падтрымку з вялізнага бюджэту ЕС, мець магчымасць для грамадзян ехаць на заробкі ў Заходнюю Еўропу і іншае.

І вось у рамках праграмы УП ЕС прапанаваў новым суседзям на ўсходзе нейкі падобны варыянт супрацоўніцтва. Там быў закладзены той жа прынцып, што і падчас рэалізацыі палітыкі пашырэння ЕС, паводле формулы «большае за большае». То бок, чым больш глыбокія эканамічныя і палітычныя рэформы ў кірунку еўрапейскіх стандартаў праводзяць постсавецкія краіны, тым большую падтрымку атрымоўваюць яны з боку Еўрапейскага саюза.

Канцэпцыя прыгожая. Але той прынцып, які эфектыўна спрацаваў адносна краін Цэнтральнай Еўропы і Балтыі, не працуе ў адносінах да Беларусі, Украіны, Малдовы, Грузіі, Арменіі і Азербайджану. Чаму? На тое ёсць некалькі прычын.

Найперш, еўрапейскі пернік для гэтых краін аказаўся маленькім. Ім не прапаноўваюць паўнавартаснае ўступленне ў ЕС, а толькі заахвочваюць рознымі схемамі супрацоўніцтва. А гэта, як кажуць у адным паўднёвым горадзе, дзве вялікія розніцы.

Калі няма такога перніка, дык яго адсутнасць трэба было б кампенсаваць грашыма. Здавалася б, больш багатая Еўропа ў гэтым плане зможа выйграць канкурэнцыю з Расіяй за кантроль над згаданым рэгіёнам.

Аднак праблема ў тым, што ЕС не хоча выдаткоўваць на праект «Усходняга партнёрства» вялікія рэсурсы. Бо ў Еўрасаюза ўзніклі сур'ёзныя эканамічныя праблемы, даводзіцца траціць вялізныя грошы для выратавання сябраў ЕС: Грэцыі і іншых. У Еўрапейскага саюза няма такіх імперскіх амбіцый, як у Расіі, дзеля якіх варта ахвяраваць рэсурсамі. У краінах ЕС, у адрозненне ад РФ, бюджэт кантралюецца грамадствам праз парламент. Таму выбаршчыкі, напрыклад, Партугаліі ці Ірландыі не зразумеюць, чаму іх грошы выдаткоўваюцца на нейкія геапалітычныя праекты ў далёкіх ад іх краінах.

Расія ж, каб утрымаць суседзяў пад сваім кантролем, грошай не шкадуе. Нават Кітай укладвае ў краіны гэтага рэгіёну нашмат больш рэсурсаў, чым ЕС. Але ніякі праект без грошай не працуе, тым больш такі амбіцыйны. А трансфармацыя на аснове еўрапейскіх стандартаў у краінах-чальцах УП патрабуе вялікіх рэсурсаў, якіх у саміх гэтых дзяржаваў не было. Расія гатова была плаціць, але не за рэформы, а за захаванне статус-кво. Узгадайце, як Пуцін паабяцаў Януковічу 15 мільярдаў долараў за адмову ад пагаднення з ЕС.

Вось, напрыклад, Мемарандум аб узаемаразуменні паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, праект якога абмяркоўваўся, аднак так і не быў прыняты на цяперашнім саміце «Усходняга партнёрства» ў Бруселі, прадугледжвае фінансавую дапамогу з боку ЕС на прасоўванне рэформаў у Беларусі памерам 136 мільёнаў еўра да 2020 года. А ад Расіі Беларусь атрымлівае дзесяці каля 2 мільярдаў долараў штогод.

**Еўропа — гэта не толькі шыкоўныя вітрыны супермаркетаў, высокія заробкі і сацыяльная абарона. Таксама гэта і іншы лад жыцця з іншымі патрабаваннямі, высокай мабільнасцю, адказнасцю за сябе**

Такім чынам, ЕС хацеў еўрапеізаваць і дэмакратызаваць краіны-чальцы «Усходняга партнёрства» толькі за кошт прыцягальнасці сваёй сацыяльнай мадэлі. Па прынцыпу, мы даем, у адрозненні ад Расіі, не рыбу, а вудачку. Яны лічылі, што прыцягальнасць еўрапейскага ўладкавання і ўзроўню дабрабыту ў перспектыве акажацца больш важкай, чым цяперашнія хуткацечныя расійскія фінансавыя субсідыі.

Але так не атрымоўваецца. На тле эканамічных праблем, іміграцкага крызісу, Брэксіту, прывабнасць еўрапейскай сацыяльнай мадэлі аказалася не такой і спакушальнай. Грамадствы гэтага рэгіёну ментальна аказаліся менш гатовымі да рынку і дэмакратыі.

Зразумела, чаму не хочуць еўрапеізавацца ўлады гэтых краін. Без дэмакратыі кіраваць прасцей. Не трэба затлумляцца рознымі правамі чалавека, выбарамі, цярпімасцю да апазіцыі і іншай дэмакратычнай мішурой. Таму ў гэтым рэгіёне відавочны трэнд на ўмацаванне аўтарытарных метадаў уладарання.

Але і грамадства таксама не надта імкнецца ў гэтым кірунку. Бо шмат хто разумее, што Еўропа — гэта не толькі шыкоўныя вітрыны супермаркетаў, высокія заробкі і сацыяльная абарона. Таксама гэта і іншы лад жыцця з іншымі патрабаваннямі, высокай мабільнасцю, адказнасцю за сябе. Гэтая мадэль вымагае ад чалавека, які прызвычаіўся жыць у ціхім правінцыйным сусвеце, прыстасоўвацца да патрабаванняў глабалізацыі. То бок, трэба прыняць не толькі эканамічныя і палітычныя рэформы, але і перабудаваць лад жыцця. А гэта псіхалагічна дыскамфортна.

Акрамя таго, не была ўлічаная гатоўнасць Расіі ісці на любыя ахвяры дзеля таго, каб не страціць кантроль над гэтым рэгіёнам. Нават пасля расійска-грузінскай вайны 2008 года еўрапейскія палітыкі не чакалі, што Масква можа прымяніць грубую ваенную сілу, каб не дапусціць Украіну ў Еўропу.

Яшчэ важны чыннік: адзіная праграма з агульнымі для ўсіх прынцыпамі і правіламі была прапанавана краінам з вельмі розным геапалітычным становішчам, сацыяльнымі мадэлямі і палітычнымі рэжымамі, з рознай гатоўнасцю да збліжэння з ЕС, прыняццем еўрапейскіх каштоўнасцяў.

Што далей, якія перспектывы УП? Праблема ў тым, што ЕС не мае асаблівай магчымасці перафарматаваць гэты праект. Цяпер Еўрасаюз уносіць змены і ў Еўрапейскую палітыку суседства, і ў УП. Па сутнасці галоўны кірунак змены складаецца ў тым, каб рабіць акцэнт на двухбаковых адносінах ЕС з кожнай канкрэтнай краінай-партнёрам, каб рэалізоўваць індывідуальны падыход, улічыць іх асаблівасці. Але ў такім выпадку губляецца першапачатковая ідэя адзінай праграмы для цэлага рэгіёну, якая грунтуецца на нейкіх агульных прынцыпах, правілах. Знікае агульная рамка. Гэта вяртанне ў 2008 год, калі ніякага УП не было. Бо калі рабіць стаўку на індывідуальны падыход, то праект «Усходняга партнёрства» не патрэбны.

Брусельскі саміт «Усходняга партнёрства» прайшоў без сенсацый, скандалаў, быў, хутчэй, руцінным, чым прарыўным. Магчыма, у гэтай руціннасці, паступовасці, паслядоўнасці і палягае галоўны сэнс цяперашняга канцэпту УП. Здаецца, Еўрасаюз пераадолеў першапачатковы амбіцыйны намер стварыць на сваёй усходняй мяжы зону дэмакратычных, рынкавых, праеўрапейскіх краін. Падыход ЕС да краін-партнёраў стаў больш прагматычным і рэалістычным. Прыйшло ўсведамленне, што палітыка — гэта мастацтва магчымага.



# Пакуль чыноўнікі бяздзейнічаюць, студэнты ўцякаюць з Беларусі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Закасцянеласць і жудасная непаваротлівасць дзяржаўнай машыны, адсутнасць стратэгіі развіцця і канвертавання навучання ў заробак і сацыяльны статус, нізкая матывацыя студэнтаў і выкладчыкаў загналі беларускую адукацыйную сістэму ў крызіс.**

## Рэформы нікому не патрэбныя?

29 лістапада павінны былі адбыцца парламенцкія слуханні па новай рэдакцыі Кодэкса аб адукацыі. Але іх… адмянілі. Дакумент быў апублікаваны для грамадскага абмеркавання яшчэ ў лютым, і да гэтага часу невядома, калі ён будзе прыняты. Пакуль што слуханні перанеслі на наступную вясну.

Паколькі шэраг экспертаў не запрасілі на слуханні, якія ўрэшце так і не адбыліся, кампанія «Гавары праўду» арганізавала ўласнае абмеркаванне праблем і будучыні беларускай адукацыі, дзе свае меркаванні маглі агучыць прадстаўнікі грамадзянскай і палітычнай супольнасцяў, выкладчыцкага корпуса, студэнцтва.

Яшчэ сёлета ў сакавіку Грамадскі Балонскі камітэт прапанаваў дакумент на 96 старонках, дзе змешчаны экспертныя ацэнкі і рэкамендацыі да Кодэкса аб адукацыі ў адпаведнасці з абавязальніцтвамі Беларусі па выкананні дарожнай карты Балонскага працэсу. Заўвагі перададзены ў Міністэрства адукацыі і замежных спраў, а таксама ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, распавёў сябра ГБК Уладзімір Дунаеў. Такім чынам, беларуская сфера адукацыі, якая і без таго знаходзіцца ў глыбокім крызісе, страціла яшчэ адзін год, збочыўшы са сцяжыны рэформ.

Паводле ацэнак World Bank, Беларусь займае сумнеўнае лідарства сярод краін Еўропы па дэфіцыце кампетэнцый выпускнікоў пры вялікай колькасці людзей з дыпломамі. Апроч таго, мы — ледзьве не чэмпіёны Еўропы па колькасці студэнтаў, што выязджаюць вучыцца за мяжу (з іх каля 70% — у Расію).

Праўда, большасць, здавалася б, галоўных стэйкхолдараў — студэнтаў і выкладчыкаў — пакуль што сама не зацікаўлена ў паляпшэнні якасці навучання. Для першых яно пераўтвараецца ў адстойванне чаргі па дыплом, для другіх — у звыклае «адбарабаньванне» належных акадэмічных гадзін, пры гэтым ні ад студэнтаў, ні ад выкладчыкаў не патрабуецца індывідуальнага падыходу да прадметаў, і перад імі не адкрываецца ніякіх прывабных перспектыў. Студэнцтва ж мае нізкую матывацыю да вучобы (а пасля і працы) яшчэ і з той прычыны, што ніяк не можа паўплываць на адукацыйны працэс. Па словах прадстаўніцы Задзіночання беларускіх студэнтаў Аляксандры Кузьміч, ВНУ самі не зацікаўленыя ў адлічэнні студэнтаў, таму апошнім не трэба прыкладаць асаблівых высілкаў для атрымання дыпломаў. Да таго ж формы ўніверсітэцкіх заняткаў часам знішчаюць усялякае жаданне на іх хадзіць.

— Калі лекцыі не вартыя таго, каб іх наведваць, ці наведвальнасць ставіцца вышэй за змест, які на іх выкладаецца, ці калі выкладчыкі на занятках даюць метадычку, а самі сыходзяць — і прыходзяць толькі ў канцы, то не трэба патрабаваць ад людзей, якія цэняць свой час, таго, каб яны былі ў гэтым зацікаўленыя, — гаворыць актывістка.

## Простая эканоміка

Дацэнт Вышэйшай школы эканомікі Санкт-Пецярбурга і сябра ГБК Андрэй Лаўрухін прапануе суаднесці паказчыкі ўзроўню чалавечага развіцця (якія ў нас досыць высокія) і ВУП (наадварот, зусім нізкія). Гэта сведчыць пра тое, што выкарыстанне наяўнага чалавечага капіталу ў вышэйшай ступені ўскладнена. Вось чаму так часта беларусы, што выязджаюць за мяжу, становяцца паспяховымі менавіта там: яны атрымліваюць магчымасць рэалізавацца.

— Адукацыя не разглядаецца як капітал, які будзе працаваць і канвертавацца не толькі ў высокія зарплаты, але і ў сацыяльныя статусы, прызнанне ў грамадстве. А толькі пры гэтым можа працаваць канкурэнцыя, — перакананы Андрэй Лаўрухін.

Яшчэ адным антыматывацыйным чыннікам з'яўляецца размеркаванне выпускнікоў-бюджэтнікаў. Паводле звестак Міністэрства адукацыі, сёлета было размеркавана на працу амаль 99% выпускнікоў ВНУ і каля 98% выпускнікоў ССНУ. Такім чынам атрымліваецца прыгожая карцінка, хоць насамрэч размеркаванне перашкаджае і рынку працы, і самім выпускнікам часта псуе планы на жыццё. У той час як у рамках еўрапейскага досведу ёсць механізмы, якія без такіх ахвяр спрыяюць атрыманню выпускніком першага працоўнага месца.

— Працадаўцу выгадней браць чалавека з пэўным досведам, чым выпускніка. Каб змяніць сітуацыю, працадаўцу неабходна заахвочваць. І гэта практыкуецца ў Еўропе: яму плацяць грошы за тое, каб ён узяў выпускніка. У Беларусі складана знайсці на гэта сродкі. Але чаму б не выкарыстоўваць падатковыя ільготы для такіх працадаўцаў? Дарэчы, БРСМ у свой час выступаў з такой ініцыятывай, праўда, прапаноўваў ільготы толькі для сяброў арганізацыі, — выказвае прапанову Уладзімір Дунаеў.

Яшчэ адзін прадстаўнік ГБК Павел Церашковіч перакананы ў тым, што адукацыя — гэта наш адзіны шанец. Бо ў нас няма 100-мільённага ёмістага ўнутранага рынку, які б стаў драйверам развіцця краіны, ці рэдкіх карысных выкапняў. Таму ў Кодэксе павінны быць тыя палажэнні, якія зробяць нашу адукацыю лепшай.

— Яны зробяць настаўніка не «лузерам» у вачах большасці насельніцтва, а паважаным чалавекам. І як бы банальна гэта ні гучала, пакуль настаўнікі будуць атрымліваць заробак, значна ніжэйшы за сярэдні па краіне, нічога не зменіцца, — гаворыць эксперт.

## Дзевяць крокаў

Але найвялікшы недахоп нашай сістэмы адукацыі — нават не фінансаванне, а адсутнасць якой-кольвечы стратэгіі развіцця. Такой стратэгіяй мог бы стаць Балонскі працэс. Але і ў рэалізацыі балонскіх рэформ Беларусь не можа пахваліцца поспехамі. У 2015 годзе, калі нашу краіну ўмоўна ўключылі ў Еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі, дзяржава «ў нагрузку» атрымала дарожную карту — шэраг рэфармацыйных абавязальніцтваў, якія павінна была выканаць цягам трох гадоў.

Адметна, што, хоць тэрмін выканання дарожнай карты для нашай краіны заканчваецца ў траўні 2018 года, дакумент да гэтага часу так і не быў афіцыйна перакладзены з англійскай мовы на беларускую ці рускую (відаць, нашы чыноўнікі перакананыя, што большасць насельніцтва краіны свабодна чытае па-англійску).

Дзякуючы валанцёрам, пераклады дарожнай карты, а таксама іншых асноўных дакументаў Балонскага працэсу на абедзве дзяржаўныя мовы ўсё ж з'явіліся ў вольным доступе, але пазнаёміцца з імі могуць толькі людзі, якія ведаюць пра існаванне сайта ГБК. Нават загад міністра адукацыі аб імплементацыі інструментаў Балонскага працэсу ў 2016 годзе немагчыма знайсці ў адкрытым доступе — такім чынам, усё, што звязана з выкананнем дарожнай карты, ахутана «туманам таямнічасці».

Ці варта казаць пра тое, што вынікі яе рэалізацыі, мякка кажучы, засмучаюць? Сярод патрабаванняў дакумента ёсць прынамсі дзевяць грамадска значных задач, што стаяць перад беларускай вышэйшай адукацыяй. Гэта пераход да трохпрыступкавай архітэктуры вышэйшай адукацыі, выдача еўрапейскага дадатку да дыплома, стварэнне нацыянальнай рамкі кваліфікацый (Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая яе не мае і карыстаецца яшчэ савецкімі тарыфна-кваліфікацыйнымі даведнікамі).

Да таго ж найважнейшыя патрабаванні дарожнай карты датычацца зменаў у існуючай сістэме выдачы дазволаў на замежныя паездкі выкладчыкаў і студэнтаў, стварэння незалежнага агенцтва кантролю якасці адукацыі, адмены размеркавання выпускнікоў, прадастаўлення фінансавай дапамогі выпускнікам прыватных ВНУ, гарантый акадэмічнай свабоды і забеспячэння права студэнтаў на стварэнне і рэгістрацыю студэнцкіх арганізацый.

На сённяшні дзень ніводны з гэтых пунктаў не выкананы. Былі спадзяванні, што ўдасца рэалізаваць хаця б два з іх, калі прымуць новую рэдакцыю Кодэкса, аднак цяпер гэтых спадзяванняў не застаецца, бо да траўня 2018 года дакумент наўрад ці будзе прыняты.

— Тэрмін выйшаў, і рэпутацыя Беларусі ад гэтага церпіць. Бо дарожная карта — адзіная праграма рэформ, узгодненая з Еўропай, — зазначае Уладзімір Дунаеў.

Але замест таго, каб здзейсніць тыя дзевяць рэфармацыйных крокаў, на якія самі ж падпісаліся, нашы чыноўнікі ўпарта стараюцца наноў вынайсці кола.

Аднак што рабіць з Беларуссю, якая, па сутнасці, сарвала тэрміны выканання дарожнай карты? Студэнцкія актывісты часам кажуць, што трэба патрабаваць выключэння нашай краіны з Балонскага працэсу. Але ці найлепшае гэта рашэнне? Эксперты ГБК лічаць, што большую карысць для нас прынясе працяг рэформ, а не адсячэнне адзінай магчымасці для іх рэалізацыі. Яны плануюць звярнуцца да парыжскага саміту міністраў адукацыі 2018 года з прапановай падоўжыць тэрмін дзеяння дарожнай карты і настойваць на яе поўным выкананні Беларуссю.

1 снежня 2017 | № 45 (559) Новы Час



Філарэт Рыгоравіч

# «Сакратара сельсавета забілі, старшыня — ўратаваўся...»

Алесь КІРКЕВІЧ

**У вёсцы Верхняе Чэрніхава пад Баранавічамі мала што нагадвае пра старыя «панскія часы»: мабыць, адно прыдарожная капліца, прысады, сажалкі, вежа-капцільня ды фамільны грабовец Рдултоўскіх, дзе чалавечыя косткі сёння перамяшаныя з жывёльнымі. Мінулае сышло ў зямлю, але зямля памятае. І людзі — тыя, хто дажыў.**

Філарэт Рыгоравіч Януць, ветэран вайны і карэнны мясцовы жыхар, што мае 92 гады, памятае багата. І пана, і панскую дачку, і галандцаў, што гаспадарылі ў маёнтку пры немцах, і паваенны супрацоў... Дзіву даешся, як чалавечая памяць захоўвае тканіну мінуўшчыны — нешта зберагае да драбніц, нешта адмыслова выкрэслівае, нешта зашліфоўвае. Але захоўвае.

На падворку пана Філарэта ідэальны парадак, адчуваецца рука гаспадара, нават у такім узросце — значыць, і розум чысты. У хаце таксама ўсё па сваіх палічках. Цудоўная мова, заслухацца можна, ды не менш цудоўныя дыялектызмы: *«сыбота», «млін», «аслабадзіць», «у башмакох», «кукарда»* і г.д. Паноў Рдултоўскіх Філарэт Рыгоравіч упарта называе «Рудатоўскімі»: такі варыянт, мабыць, для мясцовага вуха больш мілагучны.

Зрэшты, дамо слова самому нашаму герою — лепш за яго не скажаш.

## «Ад сходу да заходу...»

***— Што вам запала ў памяць з часоў, як жылі «пад Польшчай»?***

— Бацькі служылі ў памешчыка да 1939 года. Што ж, рабілі... з цямна да цямна. Як казалі, «ад сходу да заходу сонца». Раней, пры Польшчы, такая пастанова была: усходзіць сонца — на працу, заходзіць — з працы. А перапынак ад 12-й да 13.30, каб і людзі адпачылі, і скаціна. Бо ведаеце, гэта ж цэлы дзень рабіць! А зімой дзень меншы быў, але ўсё адно: ідзеш — цёмна, і прыходзіш — цёмна. Які там дзень...

Бацька і брат мой старэйшы (1923 года нараджэння. — Рэд.) на конях рабілі. Пан плаціў 6 пудоў зерня і 6 злотых на месяц. Нядзеля выходнай была, а заробак заўжды ў сыботу быў. Млін быў свой у пана. І калі тая сыбота на пачатку месяца, дык нікога на мліне няма лішняга, мелюць толькі для панскага маёнтку.

***— А вы што рабілі?***

— Мы малыя кароваў пасвілі: ад сходу да заходу. А раніцы ж, ведаеце, тады халодныя былі. А вясна — дык сапраўдная вясна, сонца! А як Саветы прыйшлі, то як на другі свет нарадзіліся. Ужо пайшоў 7-гадзінны працоўны дзень, адрабіў — адпачывай! Роскашы ўжо не было, другія правілы: маёнткі Рудатоўскіх і Слізнёвых — у саўгас...

***— Дык а вам плацілі што?***

— Я зарабляў 3 пуды і 3 злотых. Мама кароваў даіла панскіх, дык столькі ж мела. Я як мама зарабляў, атрымліваецца. А бацька з братам — 6 пудоў і 6 злотых. Хапала.

## «Гарэлка танная толькі пры Саветах стала»

***— А што на 3 злотых можна было набыць?***

— Хлеба мы не куплялі, вядома, свой пяклі. Сала не куплялі, бо па 3–4 свінні мелі. Сям'я ж працуе — дык есці трэба добра. Па 2 каровы трымалі, а часам і адну, бо навошта столькі малака? Тады ж не здавалі, толькі для сябе. Масла, сыр — усё сваё мелі. Нам больш не трэба было. Куплялі адно соль, запалкі, керасін. Яно капейкі каштавала. А сала было па 50 грошаў за кілаграм. Карова каштавала 15 злотых, неважнецкая, 25 — добрая.

***— Адзежу куплялі?***

— Самі ткалі на кроснах, палатняныя кашулі рабілі, бялізну. А ў вёсцы яўрэй краму трымаў. Хочаш — касцюм, хочаш кашулю ў яго купляй. Ці дорага які пінжак каштаваў? Не ведаю, бо не насіў. Маці нам усё сама рабіла.

***— А гарэлка прадавалася?***

— Паўтара злотых — паўлітра, бутэлька. Пры Саветах ужо танная была: 2,5 ці 3 рублі... Танная вельмі пасля стала.



Косці паноў Рдултоўскіх, раскіданыя ўнутры капліцы-пахавальні

***— А папіросы?***

— Свой тытунь садзілі — самасад. Але таксама была махорка. Паліцыя правярала, бо не можна было! Але тайком садзілі людзі ўсё адно. Тытунёвыя вырабы дарагія былі пры Польшчы. У нас ні бацька, ні брат, ні я — ніхто не паліў, я і зараз не палю. Бавіліся, як кароваў пасвілі: нашморгаем з вішняў лісця, накурымся, як пачне ванітаваць! І бацькі білі за гэта, крычалі, каб не курылі. Самі сябе труцілі...

***— У школу вы хіба ў той час яшчэ пайшлі?***

— Так, але толькі год там адвучыўся. Зімою бегалі ў школу, але як не пойдзеш — ніхто нічога не скажа. Хочаш — хадзі, хочаш — не хадзі. Школа ў вёсцы Вольная была, два кіламетры пешкі. Памятаю, польская мова штодня была — адзін урок. Калі ж чалавек заможны, то мог дзяцей у гімназію аддаць.

## «Пан бедна жыў, фурмана нат' не меў»

***— Ці памятаеце пана? Як яго звалі?***

— Пані Слізнёва, прозвішча Слізень было. А пан Рудатоўскі Канстанты (насамрэч Рдултоўскі. — Рэд.). Там на грабоўцы напісана, дзе бацькі яго ляжаць. Дык жонка ягоная тут жыла, «баба» ўсім кіравала на месцы. Ён у Варшаве, яна тут. Сам пан працаваў у сейме, мужык просты быў! А пані была ўдавою — яе мужык памёр, толькі дачка засталася, дарослая: па гаспадарцы ездзіла, пані яе вучыла, як кіраваць. Такая ў іх сям'я была.

Брат пана асобна жыў — бедна жыў: зямлі мала, дзве пары коняў, адзін пастух... пра яго і не ўзгадвалі. Мусіць, 10 ці 15 кароваў меў усяго. Абы-што быў, негаспадарлівы. Фурмана нат' не меў: сам ездзіў на кані, брычка ў яго была. Там, на версе дом у яго стаяў.

***— А ў вашага заможнага пана гаспадарка добрая была?***

— У пана Канстантыя 150 кароваў дойных было, ён для войска коняў гадаваў, сыры галандскія рабіў галушкамі, масла біў — усяго было ў пана. Яўрэям паведамляў, што будзе прадаваць карову ці яшчэ штосьці, дык тыя едуць. У мужыкоў яўрэі таксама куплялі. Як забірае, то плоціць золатам, не папяровымі грашыма. А колькі? Як дамовішся!

Дык той яўрэй прыязджае, грошы пры сабе мае, абоз у яго вялікі, як машына — і грузіць сабе. І вязе па гасцінцы ў Баранавічы. Ніхто іх не грабіў! Бывае, кароваў 10 купіць і кажа: «Слу-у-ухай, мужы-і-ік, каб ты мне завёз іх у Баранавічы, а я табе заплачу, як прывязеш!» Гэта ж яўрэі! *(Смяецца.)*

***— А яўрэі жылі ў вас?***

— Каб жылі тут? Не-е-е. У Баранавічах жылі. Адзін толькі трымаў тут у вёсцы краму. Усяго ў яго было, адзежа таксама! Але для дзяцей ніхто нічога не купляў. Толькі як хлопцы-кавалеры былі, то гэтыя касцюмы набывалі, каб хадзіць дзецюкамі, дзяўчаты — сукенкі.



Капцільня маёнтку Рдултоўскіх — адзінае, што захавалася ад некалі заможнага фальварку



Разрабаваная і знішчаная людзьмі капліца-пахавальня Рдултоўскіх

## «Па гасцінцы ішлі танкі, а мы елі яблыкі…»

***— 1939 год памятаеце?***

— Памятаю, як тады пад вечар танкі ў нас ішлі па гасцінцы… От дзе каплічка стаіць, там гасцінец Кацярыненскі быў. Гэта цяпер пазапахвалі ўсё — зямлі ім мала. А зямлі колькі валяецца! Паглядзіце, што робіцца. Раней ніхто ў горад не ўцякаў, гэта пры Саветах пачалося. Вёскі пустыя. У нас тут сем дамоў, а жыве тры чалавекі. На зіму і тыя ўцякаюць. І я ўцякаю.

***— Дык а танкі на гасцінцы — савецкія?***

— Так. Восень была, мы яблыкі елі. Хто паўцякаў, сады свае пакінуў, то ў гэтых садах ужо мы гаспадарамі былі. Хто куды мог — бег. Рабацягі толькі не ўцякалі… куды ім? А мы яблыкаў набярэм — і на гасцінец, танкістам яблыкі кідаем.

***— З радасцю сустракалі?***

— Канешне! Свае людзі, па-руску гаварылі ж! *(Смяецца.)*

***— А што з панамі?***

— А паноў разграбілі людзі — і ўсё! Паны тыя ў Польшчы ды заграніцу ўцякалі. Тым часам, як усё сталася, пан Рудатоўскі быў у Варшаве. Але ж ён усё адно цягніком прыехаў сюды — паспеў. У Пагарэльцах станцыя была, туды цягніком, а далей на фурманках. Яны ж ведалі хіба па радыё, што бальшавікі мяжу перайшлі… Пан абедам быў тут, а ўвечары ўжо з паняю ды з дзяўчынаю ўцякалі.

***— Прыехаў, забраў сям'ю і ўцёк?***

— Так. А дабро, каштоўнасці, посуд, мусіць, пазакопвалі. Бо пані пры немцах прыязджала яшчэ, а пан ужо не. Ніхто не ведае, але казалі, што ўжо памёр — ён стары дзядзька быў. А яна то маладая жанчына! Немцы ж паважалі людзей багатых — паноў. Яна прыехала, з ёй паляк быў. Відаць, адкапалі ўсё, забралі і адвезлі. Казалі, што ў Баранавічы. І паехалі цягніком назад у Польшчу.

***— Дык а людзі панскае майно як расцягвалі? Што бралі?***

— Хто коняў браў, хто што. У нас у вёсцы хоць коняў трымалі сваіх, а тут гэтыя батракі… яны і бралі. Кароваў панскіх таксама. Але пасля бальшавікі паглядзелі ўсё роўна: не твая карова — давай сюды! Пры Саветах спачатку так было: «Колькі, бацька, хочаш зямлі?» — «Пяць гектараў». — «Мерай і без ніякіх грошаў бяры!» Паперку даюць. «Твая лічная зямля!» — пажыццёва падораная! Ты 10, ты 20 гектараў — колькі хочаш! А людзі ж бралі, верылі, ой!.. Прайшоў год, а тут — калгас! Усё туды: і коняў, і кароваў *(смяецца)!*

## «Гут, гут, пан, гут!»

***— А як пры немцах жылі?***

— Скажу, што тут таксама нядрэнна было. Пры немцах гаспадарка была, кантора была, плацілі грошы людзям. Дарослым плацілі, а дзецям не, але якая там праца ў дзяцей… А бацькам маркі давалі, а не зерне: купляй, што хочаш! Савецкія не хадзілі грошы, толькі маркі.



Асабістыя рэчы ў хаце Філарэта Рыгоравіча

Гаспадарка вялікая была панская, дык там усім кіравалі галандцы: два мужыкі, здаровыя дзядзькі. Яны з немцамі разам прыехалі. Гэтыя галандцы, што ў нас былі, — о, брат! — рабочых людзей яны паважалі: «Гут, гут, пан, гут!» Разам з немцамі яны пасля і сышлі. Памятаю, хадзілі яны ў драўляных башмаках. А на Ніжнім былі румыны — салдаты.

***— А забіралі каго на працу ў Райх?***

— Не забіралі, адно з Ніжняга 4 чалавекі забралі сілай: 2-х хлопцаў, 2-х дзяўчат. А тут жа гаспадарка была нямецкая! То трэба было, каб тут і працавалі. Эх, немцы прыйшлі, у людзей усё пазабіралі, і Саветы прыйшлі — пазабіралі…

***— Школы былі пры немцах?***

— Так, вучылі нас па-беларуску. Матэматыка, алгебра, рускай мовы не было, беларуская толькі. Нямецкай мовы таксама не было, мусіць, у старэйшых класах адно. Пры Польшчы я зіму толькі пахадзіў, а пры немцах два гады, мусіць. У школе давалі падручнікі, часам, адзін на дваіх. Дзень ты вучыш, дзень сябар твой. Сшыткі былі ў школах, ды ў краме ўсё было. Пры немцах і крама была, але там ужо нетутэйшы чалавек рабіў.

***— А яўрэй, які там раней гандляваў?***

— А ён уцёк. Кінуў усё і ўцёк, «дай Бог ногі»!

## «У партызаны бралі сілай — «Родзіну зашчышчаць…»

***— А быў гарнізон дзе побач?***

— Тутака ў нас два гады быў наверсе, дзе сыраварня стаяла, дзе дом беднага пана быў… Але ў нейкі год партызаны «награнулі», разбілі, папалілі гаспадарку панскую — і ўсё. Паліцыя там была мясцовая — гарнізон называлі.

***— А як набіралі паліцыю?***

— Сілком набіралі… з горам і бядою. Багатыя адкупаліся золатам, а бедныя што: нікуды не падзенешся. Майго брата сілком узялі, хочаш — не хочаш, але пасля выкупілі. Як прыехала пані, то бацька з маці сталі прасіць, яна пагутарыла з немцамі, а тыя: «Кабана давай!» Далі кабана, кілаграм на 150. Адпусцілі брата, напісалі, нягодны па здароўю. Гэта ж выраблялася ўсяляк!

Карабіны нямецкія паліцыі давалі. Форму давалі, гэткую, як нямецкая, толькі чорную. А сівыя, як мы казалі, манжэты былі. І шапка як у немцаў, толькі чорная. І трупа галава з арлом! У самаахові, што ў Снове стаяла, форма іншая была — сівая. От як у немцаў, толькі ў іх цямнейшая адзежа, а ў самаахове святлейшая. І шапкі, і кукарды — іншыя. А ў паліцаяў — чорная і манжэты сівыя.

***— А партызаны былі?***

— Былі, але мала. У Вольнай партызаны разбілі, папалілі ўсё — бо там гарнізону не было. А на Ніжнім да канца вайны быў моцны гарнізон, да часу, як нас аслабаждалі, але і там баі бывалі. Там маёнтак, і арганізавана ўсё лепей было: кантора, дзе налічвалі людзям за працу, паперы, кіраўніцтва гаспадаркай.

***— Дык а людзі ішлі ў партызаны?***

— У партызаны маладых хлопцаў сілай бралі. І ў паліцыю, і ў партызаны — сілай. Хочаш — не хочаш, а ідзі, бо «Родзіну зашчышчаць нада». Але тут супраціву гэтага не было немцам. Тут як Бог шчасця дасць: як партызаны забяруць, то немцы тваіх бацькоў у Калдычава звязуць, а там замучаць і застрэляць.

А ў нас тры ці чатыры хлопцы былі ў Снове ў самаахове, дык яны па выходных прыходзілі да бацькоў. Партызаны іх палавілі і забралі сілай. А тут следства, «дазнаніе» і г.д. Але гэтых бацькоў не чапалі немцы, бо сыноў сілай забралі. І хлопцы гэтыя тут ніколі не паказваліся. Адно перадавалі праз людзей: «Жывы, здаровы, не перажывайце…» А як з дому забіралі каго — значыць, ты сам пайшоў. У нас гэтак не было, а ў Ліхасельцах было. Тры сям'і так расстралялі — бацькоў тых, хто пайшоў.



Прыдарожная каплічка на ўездзе ў Верхняе Чэрніхава, побач — ліпавыя прысады парку Рдултоўскіх

## «Здзекаваліся з немак, а пасля «строгасць» пайшла…»

***— Ці былі баі ў 1944-м?***

— Не, не было. У вёсцы спалілі ля самага гасцінца дом: казалі, што немцы даюць знак, што ўсе адступілі. Звяз такі часці міжсобку мелі. Увесь рух па гасцінцы быў, тут і Саветы ішлі. Верылі ім, хораша сустракалі…

***— З брата не пыталіся за паліцыю?***

— Канешне, колькі дзялоў было, ой… Але не судзілі, бо ён не служыў жа.

***— А тых, хто служыў?***

— Па 25 год ім. Помніш, Сталін у 1953 годзе памёр, амністыя вялікая была, то іх павыпускалі. А так — па 25 год… Былі такія, што па амністыі выйшлі, але не пакаяліся. На Сібіры яны рабілі, лес нарыхтоўвалі. Адтуль папрыходзілі і супраціўляліся па лясах. Адзін тут доўга быў — схаваўся. Людзі баяліся: як скажаш што рускім «страбкам» («ястрабкі» — фармаванне пры МДБ. — Рэд.), то глядзі, зарэжуць дзе! Гэтак і пасля 1951-га было, калі я вярнуўся.

***— Дык а чаго паліцыя з немцамі не адступіла?***

— А чаго ім з немцамі? Куды ім уцякаць? Яны ж сілай там служылі. Іх некаторых і ў Чырвоную Армію забралі.

***— А як вас мабілізавалі?***

— Мы з братам прызываліся разам, толькі па розных датах. От як немец сышоў, то іх жнівом бралі ды не трымалі больш за два тыдні ва ўчэбцы, адразу на перадавую. А нас маладых на малодшых камандзіраў рыхтавалі. Як узялі ў кастрычніку, дык да Новага года мы былі ў Барысаве — да прысягі.

Спачатку гора я пацярпеў… Як гэта ўсё перажыць чалавеку, Божа ты мой… Па памыйках бегалі ў арміі… Давалі траску, муку растаўчоную на квас — і ўсё. А хлеба 600 грам усяго. Пакуль суп дадуць, то ты гэты хлеб шчыпаеш-шчыпаеш — сашчыпаў і няма! Перавярнуў супу, выпіў ды пайшоў.

З Барысава ў Варшаву забралі, дык там лепш нашмат стала. А як у Германію ўступілі, то там ужо хапала і піць, і есці. Там жа з братам выпадкова сустрэліся ў адной дывізіі. Ён у выведцы, а я на камутатары — у сувязі. Адна дывізія, але па розных казармах.

***— А як сустрэліся?***

— Выпадкова. Аёй!… Пасля ўжо ён ведаў, што я на камутатары, то бывае пазвоніць мне, пагаворым трошку і ўсё. Два разы асабіста бачыліся. Аднаго разу брат цэлую пілотку яек прынёс з нямецкага куратніка: «Бяры, наварыш!» Яны ж выведка, нешта ўвесь час прыдумляюць! Стаялі мы каля Одэру, на Эльбе ў нейкіх гарадках ды пасёлках. У немцаў вёсак не было: па 10 дамкоў альбо паасобку жылі, як у нас тут асаднікі.

Там у іх культурна ўсё было. Спачатку нашы дрэнна ставіліся, здзекаваліся з немак, дзяўчат… Але пазней «строгасць» за гэта пайшла. Нашы ж самі здзекаваліся, як раней немцы здзекаваліся! Такая «жысць» праходзіла… А дэмабілізоўваўся я з Прыбалтыкі ўжо, у Рызе стаялі.

## «Былі баі: з міліцыяй, са «страбкамі»

***— Калі вярнуліся з войска, што ўбачылі на Радзіме?***

— На базе маёнтку панскага быў саўгас ужо. У Юшкавічах людзі былі супраць улады савецкай. Там баі былі: з міліцыяй, са «страбкамі». Іх у калгасы, а яны не ішлі, то іх сілай. А ў іх зброя, супраціў быў, ой… Колькі ж там гаспадароў пагібла… Дзе ж ты можаш супраць улады браць зброю ды выступаць?! Панскі дом самі людзі спалілі, як саўгас ужо быў.

***— А чаму спалілі?***

— Спачатку там школа была, пасля саўгас забраў пад кантору, а людзі спалілі, каб на базе маёнтку калгас не зрабілі! Адмыслова палілі: супраць улады людзі ішлі. Але дзе ж ты пойдзеш?.. Забіралі пасля. Забралі і забралі… Ніхто не вярнуўся. Сакратара сельсавета забілі, старшыня то ўратаваўся — яго паранілі цяжка былі. І другі раз нападалі… Тут банда была гэтых… дэмухаў. Банда дэмухаў.

***— Што за «дэмухі»?***

— Мясцовыя, яны пры немцах у паліцыі служылі. Пасля па вёсках хаваліся альбо недзе ў лесе ці ў пушчы ўся гэтая арганізацыя была… халера яго ведае.

***— А за каго яны былі? За Польшчу?***

— Яны супраць улады савецкай былі! А за каго былі?.. Не ведаю. За немцаў жа раней ваявалі. Людзі баяліся. Нідзе ніхто ніколі не казаў пра іх. Бо хто ведае? Перададуць ім — і ўсё…

***— Але ж нехта іх, мабыць, падтрымліваў?***

— Канешне! Але ж гэта ўсё тайна было. Толькі пасля ўжо высветлілася, хто ды як. З нашай вёскі там не было нікога, спакойная была вёска. Мусіць, з Нагорнай было пара чалавек, з Ніжняга некалькі.

***— Колькі чалавек агулам?***

— Бог іх ведае! Яны ж ноччу з'явяцца… Кажуць, і там я бачыў, і там бачыў… паўсюдна. А колькі невядома. Але, мусіць, немалая шайка. Недзе ў 1948 ці ў 1950-м — распавядалі — іх палавілі. Дваіх у Баранавічах павесілі… Такое жыццё было.

**Фота аўтара**

### «Банда дэмухаў»

Верагодна, Філарэт Рыгоравіч мае на ўвазе так званую «групу Раманчука», якая адзначылася ў паваенным Супраціве. Падчас вайны Раманчук узначальваў Беларускую Народную Самапомач у Баярах. Пасля прыходу Саветаў перабраўся ў Баранавічы. Яго спрабавалі арыштаваць, але Раманчук уцёк і пачаў гуртаваць вакол сябе групу. Вядома, што ў 1947-м да яго далучыліся Мікалай Дэмух (ад прозвішча якога, імаверна, і пайшла назва), у 1948-м — Браніслаў Бука — былы жаўнер БКА.

У 1947–1949 гадах яны займаліся тэрорам супраць савецкай улады, забойствамі міліцыянтаў, партыйных актывістаў, прадстаўнікоў адміністрацыі. Таксама рабілі налёты на кааператывы ды крамы. У траўні 1949-га ў выніку аперацыі МДБ група была ліквідаваная. Разам з чальцамі групы пад удар трапілі і дзясяткі мясцовых жыхароў, абвінавачаных у дапамозе «бандытам».

У матэрыялах справы група фігуравала як «…террористическая бандгруппа белорусского националистического подполья, ставившая своей задачей отторжение БССР от Советского Союза и установление Независимого белорусского буржуазного государства с профашистским строем, под протекторатом Англии и Америки».

1 снежня 2017 | № 45 (559) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. «Нашы віншаванні — нашаму прэзідэнту!»

Штогод 1 снежня Казахстан святкуе Дзень першага прэзідэнта, якім, як вядома, з'яўляецца Нурсултан Назарбаеў. Свята не абыходзіцца без вельмі арыгінальных формаў выяўлення любові да Елбасы. У гэтым годзе найбольш праявілі сябе чыноўнікі ва Усходнеказахстанскай вобласці, дзе прайшла моладзевая акцыя «Нашы віншаванні — нашаму прэзідэнту». У межах акцыі маладыя казахі ў сацыяльных сетках віншавалі Назарбаева з Днём першага прэзідэнта. Але проста напісаць віншаванні ў інтэрнэце было недастаткова. Ад удзельнікаў акцыі патрабавалася размясціць фота, якое было зроблена на фоне спецыяльных стэндаў. Тыя стэнды былі ўстаноўленыя ў гандлёвых цэнтрах, забаўляльных комплексах, кінатэатрах, а таксама ў навучальных установах буйных гарадоў. Як і меркавалася, акцыя прыняла павальны характар, паколькі публікацыю віншаванняў у сацсетках кантралявалі ў адміністрацыях навучальных устаноў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЕС. Новыя стандарты чыпсаў

Нягледзячы на вельмі цяжкі стан еўраінтэграцыі, кіраўніцтва ЕС працягвае выдаваць інструкцыі для сваіх сябраў. 23 лістапада з'явілася дырэктыва наконт таго, якімі на тэрыторыі Еўрасаюза павінны быць некаторыя бакалейныя вырабы, і найперш чыпсы. Сутнасць дакумента ў тым, каб паменшыць у іх прысутнасць такога хімічнага рэчыва, як акрыламід. Як і варта было чакаць, пастанова не спадабалася той часткі бізнесоўцаў, якія павінны за свой кошт забяспечваць новыя стандарты. Урэшце выказалі незадаволенасць уладальнікі нямецкіх рэстаранаў і гатэляў, якія назвалі дакумент «дэманстрацыяй еўрапейскай бюракратыі». Да пратэстаў далучыўся і міністр сельскай гаспадаркі ФРГ, на думку якога пастанова — «бессэнсоўная». З улікам такой рэакцыі, не выключана, што лёс еўрапейскіх чыпсаў будзе вырашацца ў межах будучых перамоў паміж краінамі ЕС.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. У 2018-ты без Пуціна?



Расійскі апазіцыянер Вячаслаў Мальцаў, які збег за мяжу, назваў новую дату антыпуцінскай рэвалюцыі. Нагадаем, што спачатку яна планавалася на 5 лістапада гэтага года. У выніку атрымалася не рэвалюцыя, а маштабныя арышты расіян, падазраваных у сімпатыях да Мальцава. Па версіі следства, прыхільнікі Мальцава па ўсёй Расіі рыхтавалі выбухі, падпалы і масавыя беспарадкі. Цяпер палітык, які жыве ў Парыжы, агучыў новы план, які складаецца з двух этапаў. 15 снежня павінен прайсці «Марш мільёнаў», а 31 снежня — інтэрнэт-флэшмоб «Новы 2018 год без Пуціна». Хаця ў сацсетках ужо з'явіліся адпаведныя ролікі і заклікі, пакуль поспех абодвух акцый сумнеўны. На гэта раз ад яе дыстанцыяваліся апазіцыянеры накшталт Навальнага. Такую пазіцыю можна патлумачыць жорсткім характарам рэпрэсій: пасля 5 лістапада адразу шэсць прыхільнікаў Мальцава былі абвінавачаны ў тэрарызме.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Краіна распадзецца на 11 дзяржаў?

Такую выснову можна зрабіць, прачытаўшы новую скандальную кнігу амерыканскага навукоўца Коліна Вударда (Colin Woodard). У сваёй кнізе пад назвай «Амерыканскія нацыі» ён налічыў на тэрыторыі ЗША 11 адметных культурных зон, на базе якіх ужо, маўляў, паўсталі асаблівыя нацыі. Грунтам фармавання гэтых нацый, на думку навукоўца, сталі традыцыі першых каланістаў. Так, кальвіністы, якія першымі прыбылі на паўночны ўсход цяперашніх Злучаных Штатаў, заклалі прагматычны светапогляд сённяшніх жыхароў Нью-Ёрка. Цікавая таксама выснова навукоўца пра тое, што ў будучыні людзі ў ЗША імкнуцца ехаць туды, дзе ім камфортней. Гэта ўзмоцніць культурны код кожнай нацыі, але паступова ўсе яны так ці інакш будуць фармавацца вакол двух ключавых — нацыя янкі (паўночны ўсход ЗША) і нацыя жыхароў поўдня (паўднёвыя штаты ). А вось аб'яднацца янкі і жыхары поўдня не ў стане, паколькі па сваіх каштоўнасцях гэта самыя палярныя нацыі ў ЗША.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.dnr24.su

# Сярдзючку ў прэзідэнты!

Алег НОВІКАЎ

**Трэцяе месца музыкі Святаслава Вакарчука ў рэйтынгу кандыдатаў у прэзідэнты Украіны правакуе шмат каго з артыстаў таксама ісці ў палітыку.**

Дадзеныя сацапытанняў, паводле якіх лідар «Океана Ельзи» займае высокае месца ў прэзідэнцкім рэйтынгу, публікаваліся і раней, аднак шмат хто ім не верыў. Сур'ёзна пра шанцы Вакарчука пачалі казаць пасля таго, як былі агучаныя вынікі агульнанацыянальнага сацыялагічнага даследавання, праведзенага сумеснымі намаганнямі адразу чатырох вельмі паважаных агенцтваў.

Такім чынам, калі б прэзідэнцкія выбары адбыліся ў бліжэйшы тыдзень, дык самую вялікую падтрымку атрымалі прэзідэнт Пётр Парашэнка, лідар апазіцыйнай партыі «Бацькаўшчына» Юлія Цімашэнка і лідар гурта «Океан Ельзи» Святаслаў Вакарчук. За Парашэнку гатовыя прагаласаваць 16,1% рэспандэнтаў, за Цімашэнку — 14,4%, за Вакарчука — 12,1%.

У выніку тэма прэзідэнцтва Вакарчука — адна з самых папулярных ва ўкраінскай прэсе. З'явіліся нават першыя прагнозы наконт курсу краіны ў выпадку перамогі музыкі. Некаторыя пішуць, што прэзідэнт Вакарчук будзе падобным да Эмануэля Макрона — ён малады, прыгожы, з недастатковым палітычным досведам, але вялікім узроўнем сацыяльнага даверу, што дазволіць яму запусціць радыкальныя рэформы.

Ёсць і іншае меркаванне, паводле якога Вакарчук можа стаць аўтарам канстытуцыйнай рэформы. Нібыта, спявак стане фармальным лідарам, аддаючы сапраўдную ўладу прэм'еру, якім, дарэчы, можа стаць Пётр Парашэнка. А вось апазіцыйнае выданне 2000.ua мяркуе, што «стратэгічна Вакарчук будзе марыянеткай Захаду».

Але адным прадстаўніком эстрады выбары ў 2019 годзе, падобна, не абмяжуцца. Хутчэй за ўсё, акрамя Вакарчука на выбарчых білбордах можна будзе пабачыць імя шоўмэна Уладзіміра Зяленскага з «Кварталу 95». На карысць яго палітычных амбіцый кажа нядаўні ролік у сеціве супраць забароны ва Украіне расійскага серыялу «Сваты». Сярод іншага, комік прайшоўся па спецслужбах, якія «займаюцца не кумамі, а сватамі». Літаральна за суткі відэа паглядзелі больш за мільён чалавек, што кажа пра сур'ёзны рэсурс падтрымкі ў Зяленскага. Такое палітызаванае пасланне гумарыста расцанілі як уваходжанне ў палітыку.

Хаця ёсць думка, што забарона «Сватоў» (іх вытворчасць фінансаваў і Зяленскі таксама) была папярэджаннем ад улады. «Наверсе», маўляў, хочуць даць зразумець артысту: калі ён пойдзе ў прэзідэнты ці падтрымае нейкага кандыдата, у яго бізнесу паўстануць праблемы.

Аднак і Зяленскім спіс кандыдатаў-артыстаў не абмяжоўваецца. Называюцца іншыя вядомыя спевакі: Патап і Насця Каменскіх, Таісія Павалій, Сяргей Прытула, Оля Палякова. У Адэсе прапануюць выставіць у прэзідэнты мясцовага коміка Жору Дэліева з вядомай групы «Маскі».

Не абышлося, канешне, і без мегазоркі Веркі Сярдзючкі (сцэнічны персанаж Андрэя Данілкі). На інтэрнэт-форумах лозунгам «Цыгель, цыгель, ай-лю-лю!» Верка з зоркай на галаве заязджае ў офіс на Банкавай (вуліца, дзе месціцца рэзідэнцыя прэзідэнта Украіны ў Кіеве). У сацыяльных сетках створаныя і першыя ініцыятывы за прэзідэнцтва Сярдзючкі.

Імклівую палітызацыю ўкраінскай сцэны звязваюць з шэрагам прычын, у тым ліку і са спробамі дзяржавы ўмешвацца ў культурнае жыццё. Украінскія чыноўнікі сваёй пастаяннай цікаўнасцю наконт спраў артыстаў і забаронамі падштурхоўваюць апошніх да палітычнай дзейнасці.

Да ўдзелу ў выбарах артыстаў міжволі штурхае агульная атмасфера недаверу да палітыкаў. «Сёння ўкраінскае грамадства знаходзіцца ў такім дэзарыентаваным стане, што можа прагаласаваць і за прыгожы прадмет мэблі, а не толькі за спевака», — такі дыягназ ставіць палітолаг Руслан Бортнік.

Нарэшце, чуткі пра тое, што Вакарчук ідзе ў прэзідэнты занепакоілі выбарчыя штабы палітыкаў-аксакалаў. Каб не пусціць музыку ў другі тур, яны будуць стымуляваць і фінансаваць удзел у выбарах іншых поп-зорак, кшталту Зяленскага.

Застаецца пытанне: што дасць Украіне масавае прышэсце артыстаў у палітыку? Пакуль на гэты конт адзінага пункту гледжання няма. Напрыклад, выданне «Gordon» мяркуе, што адкрыты, інтэлігентны і разумны Вакарчук зможа зрабіць тое, што не здолелі зрабіць два Майданы — перафарматаваць карумпаваную эліту краіны.

Іншыя непакояцца, што хваля палітыкаў-артыстаў знізіць узровень палітычнай культуры, паколькі новыя куміры публікі не будуць самастойнымі фігурамі. Прычым, курыраваць іх могуць не толькі алігархі ці Захад, але таксама і Масква. «Гэта (палітызацыя эстрады), безумоўна, небяспека для дэмакратыі, дзяржаўнага развіцця, калі палітыка стане яшчэ больш чорнай, бруднай і кулуарнай», — мяркуе выданне «Голос».

Зрэшты, усе гэтыя спрэчкі пакуль абстрактныя. Ні Святаслаў Вакарчук, ні Уладзімір Зяленскі, ні іншыя ўкраінскія служкі Мельпамены да гэтага часу не зрабілі афіцыйнай заявы наконт удзелу ў выбарчай гонцы. Але чакаць засталося нядоўга: фактычна пасля новага года Украіна пачне ўваходзіць у прэзідэнцкі выбарчы цыкл.

# Тыбету незалежнасць не патрэбна?

Алег НОВІКАЎ

**Духоўны лідар тыбетцаў Далай Лама заявіў, што яго суайчыннікам варта адмовіцца ад ідэі незалежнасці на карысць канструктыўнага супрацоўніцтва з Пекінам.**


Фота www.asiarussia.ru

У Франкфурце 22 лістапада падчас сустрэчы моладзевай зборнай Кітая і мясцовага клубу рэгіянальнай лігі меў месца інцыдэнт. Купка актывістаў прабралася на стадыён і ўзняла на трыбунах сцяг Тыбету. У адказ каманда з КНР пакінула поле, вярнуўшыся толькі пасля таго, як сцяг прыбралі.

Матч у выніку скончыўся перамогай кітайцаў, але канчатковы лік ужо нічога не значыў. Паколькі гульню ў прамым эфіры транслявалі ў Кітаі, інцыдэнт са сцягам стаў вядомы ўсім, і, адпаведна, выклікаў міжнародны скандал. Пекін абураўся тым, што актывістам без перашкодаў дазволілі прайсці на стадыён. Берлін казаў пра тое, што заўзятары ў Германіі маюць права выказваць свае погляды. Што тычыцца тыбетцаў, то яны не хавалі радасці ад таго, што нагадалі свету пра ідэю незалежнага Тыбету.

І тут прыйшла здрада. 24 лістапада Далай Лама заклікаў тыбетцаў забыцца на мінулае і пачаць глядзець у будучыню. А будучыня, па словах Далай Ламы, будзе выглядае так: Тыбет застанецца часткай Кітаю, — праўда, будзе вельмі аўтаномным у сферах культуры і кансервацыі сваёй гістарычнай спадчыны.

Перагледзець незалежніцкія канцэпты Далай Ламу, як кажа ён сам, прымусілі глыбокія трансфармацыі ў Кітаі — вынік інтэграцыі Паднябеснай у глабальную эканоміку. Далай Лама таксама лічыць, што на прыярытэтным месцы для тыбетцаў павінна быць выратаванне мясцовай экасістэмы, якую ён называе «трэцім полюсам планеты».

Антынезалежніцкая заява, мякка кажучы, дзіўная з улікам таго, што ўсё папярэднае жыццё Далай Лама казаў адваротнае: увесь час падкрэсліваў права тыбетцаў мець сваю дзяржаву, у тым ліку і праз высокі кошт акупацыі. Тыбецкія крыніцы сцвярджаюць, што толькі пасля ўключэння краю ў склад КНР 1,2 мільёны з 6 мільёнаў мясцовых жыхароў памерлі або былі забітыя. Гэта не кажучы пра каласальныя культурныя страты: 6000 будысцкіх манастыроў — цэнтры культурна-палітычнага жыцця краю, кітайцы закрылі і разбурылі. І вось нечакана высвятляецца, што пра ўсё гэта цяпер можна спакойна забыцца, каб глядзець у будучыню.

Спіч Далай Ламы — гэта таксама моцны ўдар па прэстыжы міграцыйных структур. Пасля таго, як у 1959 годзе маладому Далай Ламе ўдалося збегчы з Тыбету ў Індыю, у свеце пачаў фармавацца тыбецкі міграцыйны рух. Цяпер тыбецкая эміграцыя — напэўна, найлепшы прыклад таго, што і як павінна рабіць палітычная апазіцыя, якая вымушаная існаваць па-за межамі краіны.

У эміграцыі дзейнічае тыбецкі ўрад, які абірае асамблея, дзе прадстаўленыя тыбецкія дыяспары па ўсім свеце. Прэм'ер ураду кіруе сямю дэпартаментамі, у тым лік Дэпартаментам фінансаў, які распараджаецца шэрагам прадпрыемстваў і трэстаў, штогод фармуе бюджэт урада ў выгнанні, забяспечвае яго бесперабойнае функцыянаванне. Фактычна, 100-тысячная тыбецкая абшчына ў выгнанні ў Індыі ўяўляе сабой «дзяржаву ў дзяржаве», валодае сваімі школамі, бальніцамі і іншай інфраструктурай.

Уся гэтая дзейнасць была негалосна падпарадкаваная ідэі таго, што ў адзін цудоўны дзень Пекін будзе вымушаны пакінуць Тыбет. Пасля гэтага, як плануецца, эмігранты адразу вернуцца на радзіму і ўзначаляць мясцовую адміністрацыю. Сыходзячы з новай канцэпцыі Далай Ламы, эмігранты павінны адмовіцца ад палітычных аспірацый, прызнаўшы выразнікам волі тыбетцаў марыянеткавы ўрад у Лхасе (сталіцы Тыбецкага аўтаномнага раёну), які цалкам падкантрольны Пекіну.

Ці сапраўды выказванне Далай Ламы стане паваротнай кропкай у гісторыі Тыбету? Наконт гэтага адзінай думкі сярод спецыялістаў няма. Не выключаюць, што Далай Лама гуляе нейкую «шматхадоўку» з Пекінам. Шмат хто звяртае ўвагу на тое, што яго прамова была нашпігаваная кампліментамі на адрас Кітая. Магчыма, лідар тыбетцаў фліртуе з уладамі Паднябеснай, каб вярнуцца да перамоў. Не выключана, што ён прапануе сябе на ролю медыятара ў нятросных індыйска-кітайскіх адносінах, каб узняць свой міжнародны статус.

А вось пра нейкі раскол у тыбецкіх колах пасля скандальнай заявы сапраўды можна казаць. Шэраг арганізацый, напрыклад, жаночых, асцярожна віталі агучаныя тэзісы. Паводле іх словаў, Далай Лама на самай справе яшчэ ў 1976 годзе адмовіўся ад ідэі незалежнасці Тыбету, калі загадаў распусціць вайсковыя структуры тыбецкіх паўстанцаў і стаў на шлях негвалтоўнага супраціву. Праўда, дапускаючы, што аўтаномія тыбетцаў у Кітаі павінна быць больш шырокай, чым цяпер.

Іншая фракцыя ў выглядзе моладзевых арганізацый — абураная. Адно з эмігранцкіх палітычных выданняў піша: «Шмат тыбетцаў былі моцна ўражаны выказваннем Далай Ламы пра тое, што ён не хоча незалежнасці Тыбету. (...) Паважаны васьмідзесяцігадовы манах не разумее, што ён робіць сур'ёзную гістарычную памылку, праяўляе непавагу на адрас духу тыбетцаў». У тым жа тэксце гучыць заклік працягваць супраціў. «Захоўваючы павагу да Далай Ламы за вялікі ўнёсак, які ён зрабіў для тыбетцаў у мінулым, тыбетцы павінны ветліва сказаць яму, што яны будуць працягваць верыць у справу незалежнай Тыбету і імкнуцца да гэтага», — рэзюмуе аўтар тэксту.

Такім чынам тыбецкі рух, які, дарэчы, інспіраваў шмат незалежніцкіх рухаў у свеце, уваходзіць у нейкую новую, не зразумелую пакуль стадыю. Варта таксама ўзгадаць, што на носе — патэнцыйны крызіс інстытута Далай Ламы (Кітай лічыць, што пасля смерці цяперашняга 82-гадовага Далай Ламы новым тыбецкім духоўным лідарам будзе яго кандыдат). З іншага боку, які б фармат не меў тыбецкі рух у далейшым, само пытанне Тыбету наўрад ці знікне.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мэры МакДональд



Лічыцца, што менавіта гэта актывістка Шын Фейн — палітычнай партыі, якая дзейнічае ў Ірландыі і Паўночнай Ірландыі, хутка ўзначаліць партыю. Легендарны лідар Шын Фейн Джэры Адамс не так даўно заявіў пра сыход на пенсію.

Прыход Мэры МакДональд будзе значыць новы этап у гісторыі ірландскага нацыяналізму. Хаця б таму, што яна ніколі не была баевіком Ірландскай Рэспубліканская Арміі (IRA) — блізкай да Шын Фейн мілітарнай групоўкі, адказнай у тым ліку за шмат тэрактаў. Дарэчы, Джэры Адамс падазраваўся ў дачыненні да шэрагу забойстваў і выбухаў, пра што зараз шмат кажуць родныя ахвяраў IRA. У адрозненне ад Адамса, МакДональд паходзіць з сям'і заможных умераных каталікоў, вучылася ў прыватнай школе і пачынала кар'еру ў кансерватыўнай партыі Fianna Fáil, адкуль напрыканцы 1990-х гадоў перайшла да больш левай партыі Джэры Адамса.

Нягледзячы на тое, што ў структурах Шын Фейн паважаюць ветэранаў — удзельнікаў барацьбы за грамадзянскія правы ірландцаў-каталікоў у 1960–1970-я гады, менавіта МакДональд паступова стала ўспрымацца як пераемнік Джэры Адамса. Лічыцца, што не павязаная з эпохай тэрарызму жанчына дапаможа партыі знайсці падтрымку сярод шматлікіх пратэстантаў Паўночнай Ірландыі, якія незадаволеныя наступствамі выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС. Калі такі сцэнар рэалізуецца, у Шын Фейн з'явіцца рэальная магчымасць паставіць пытанне пра вяртанне краю ў склад Ірландыі.

### Рауль Кастра



Куба адзначыла гадавіну смерці Фідэля Кастра. Паралельна адміністрацыя кіраўніка Кубы выступіла з шэрагам цікавых ініцыятываў.

Абвешчана, што хутка будзе перагледжаны закон аб кубінскім грамадзянстве. У выніку дзеці кубінцаў, якія нарадзіліся за мяжой, атрымаюць права на аўтаматычнае грамадзянства Выспы свабоды. Паводле падлікаў спецыялістаў, уладальнікамі пашпарту толькі ў ЗША могуць стаць каля 800 тысяч чалавек.

Гэта крыху дзіўна, калі ўзгадаць, што Куба даўно з'яўляецца краінай эмігрантаў — шмат мясцовых жыхароў бягуць адсюль у пошуках лепшага жыцця. Калі нехта свядома і эміграваў на Кубу, дык толькі сябры левацкарадыкальных груповак, якім пагражала турма ў тых жа ЗША.

Аднак усё не так проста — з улікам гучнага канфлікту ў адносінах паміж Вашынгтонам і Гаванай. Амерыканскі ўрад не так даўно абвінаваціў адміністрацыю Рауля Кастра ў дачыненні да траўміравання работнікаў амерыканскага пасольства, якія загадкава страцілі слых. Гавана, у сваю чаргу, кажа, што ва ўсім вінаватыя казюркі, якія выдавалі гучны гук. Намер адчыніць дзверы для амерыканскіх кубінцаў, мауляў, можа астудзіць агрэсіўную рыторыку адміністрацыі Дональда Трампа.

### Серж Саргсян



Кіраўнік Арменіі — краіны-сябры Еўразійскага саюза — 24 лістапада падпісаў дамову пра Асацыяцыю з Еўрасаюзам, што выклікала шмат каментараў. Справа ў тым, што розныя нюансы падпісання Асацыяцыі Украіны і ЕС сталі ў 2013-м пралогам Еўрамайдану. Аднак у Арменіі ніякага палітычнага крызісу, падобнага на украінскі, не назіраецца.

Зараз атрымліваецца, што магчымы адначасовы ўдзел постсавецкай дзяржавы ў Еўразійскім эканамічным саюзе (ЕАЭС) і ў Асацыяцыі з Еўрасаюзам. Міжволі ўзнікае думка, што ва ўсходняй палітыцы ЕС адбываецца нешта глабальнае. Раней Дамова пра Асацыяцыю абавязкова разглядалася як сістэмны выбар краіны на карысць еўрапейскай інтэграцыі. Тое ж самае тычыцца і Масквы, якая прынцыпова не дазваляла краінам-сябрам ЕАЭС стварэць зоны вольнага гандлю з ЕС.

На думку некаторых экспертаў, прыклад Арменіі дазваляе казаць пра тое, што ў Маскве і Бруселі адбылася адмова ад жорсткага прынцыпу «або — або», і зроблены крок у напрамку іншага падыходу — «і — і». Ці будзе гэта азначаць, што ў краінах СНД палітычная крэда перастане фармавацца па крытэру: «за Маскву або за Брусэль?» Праўда, гэта толькі версія.

Таксама нельга ігнараваць вельмі спецыфічны статус Арменіі ў сістэме падтрымкі стабільнасці на Каўказе. Наўрад ці на Захадзе або на Усходзе зацікаўленыя, каб у Ерэване прыхільнікі розных геапалітычных курсаў перасварыліся, справакаваўшы рэгіянальны канфлікт.

# Трагедыя Леі з Ішкалдзі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас Другой сусветнай вайны шмат каму з жыхароў Беларусі давялося рабіць цяжкі выбар: ратаваць габрэяў і выракаць сваіх блізкіх на небяспеку знішчэння нацыстамі ці маўкліва назіраць за тым, як немцы і іх памагатыя забіваюць учорашніх суседзяў. Гэта гісторыя адбылася ў 1942 годзе ў заходнебеларускай Ішкалдзі.**

## За польскім часам

Да вайны мястэчка Ішкалдзь было заможным і прыгожым. Уваходзіла яно ў склад Паланечкаўскай гміны (Баранавіцкі павет Навагрудскага ваяводства) Другой Рэчы Паспалітай. У пачатку 1930-х гадоў польскія ўлады распарадзіліся прakласці тут брукаванку. Звязана гэта было яшчэ і з тым, што ў Ішкалдзі знаходзіўся вялікі кірмаш. Дарэчы, рынкавая плошча засталася тут і сёння, хаця яна ўжо зусім не нагадвае былы рэгіянальны гандлёвы цэнтр.

Усё змянілася з пачаткам Другой сусветнай вайны. У выніку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь» Ішкалдзь апынулася ў складзе БССР.

«Я памятаю 17 верасня 1939 года. Мы тады ў школу пайшлі. Настаўніца (памятаю, прозвішча яе — Сікорская) пачула гук самалёта і загадала нам усім хавацца. Думала, што гэта немцы ляцяць Баранавічы бамбіць, а гэта савецкі самалёт на Захад праляцеў. Чырвонаармейцы з'явіліся хутка. Усё спявалі пра тое, як добра жывецца ў СССР. Бачаць, а людзі з касцёла ідуць — добра апранутыя, у ботах «факстротах». Дык кажуць, тут усе паны. А якія мы паны? Такія ж сяляне, як і гэтыя з БССР, проста працаваць умелі і гаспадарамі былі. Арыштоўваць палякаў сталі, хто пры той уладзе нейкія пасады меў. Але і сялян чапляпі, у кулакі запісвалі», — распавядае жыхарка Ішкалдзі Ганна Жырко.

Хутка вайна зноў завітала ў мястэчка — і чарговыя трагедыі абрынуліся на галаву мясцовых жыхароў.

## Расстрэл

«У 1942 годзе сюды на конях прыехалі паліцэйскія ў суправаджэнні нямецкага афіцэра. Нас паклікалі, а мы ж малыя былі тады. Далі нам гэтых коней, каб мы іх па хлявах развялі. Сагналі ўсіх мясцовых на рынкавую плошчу і загадалі: «Калі знойдзем нешта ваеннае, нават вопратку, не кажучы пра зброю, расстраляем. Усё прыносьце і здавайце». І тут жа пайшлі за габрэямі. У нас тут няшмат габрэяў да вайны жыло. Дзве сям'і. Яны краму трымалі. Добрыя людзі былі. Там была дзяўчына Лея. Маладая, гадоў за дваццаць. Калі яе маці зразумела, навошта прыехалі паліцаі, пачала прасіць мясцовых жыхароў, каб схавалі дачку. Але тыя баяліся: немцы ж тады ўсіх расстраляюць. І вось бачым, вядуць іх, а мужчына, адзін з іх, на сябе маток калючага дроту нясе. Габрэі тады думалі, што іх павязуць у вёску Вольна, бо там быў пастарунак паліцыі», — узгадвае жыхар Ішкалдзі Жыгімонт Абрамовіч.

Паліцаі знайшлі двух мясцовых жыхароў, загадалі ім узяць рыдлёўкі і павялі на ўскраіну Ішкалдзі, каб тыя капалі магілы для ахвяр. Адзін з паліцаяў быў мясцовы, з суседняй вёскі. Ён і канваяваў небаракаў да месца пакарання.

Калона дайшла да ўскрайку Ішкалдзі, і за старымі могілкамі канвойныя і іх ахвяры павярнулі налева. Каты загадалі ахвярам распранацца. Габрэі пачалі плакаць, крычаць.

«Да нас людзі ў хату беглі, каб паглядзець, куды габрэяў гоняць, бо паліцаі казалі, што на Паланечку. Сярод ахвяр былі Хана, яе дачка Лея, добрая такая дзяўчына была, чорненькая, Вура, яе бацька, а таксама Ента, Ласка і Мірка — іх сваякі. У Енты было два сыны, Файбель і Евель. Высокія хлопцы, моцныя, яны яшчэ да вайны кудысьці паехалі. Магчыма, у ЗША», — расказвае Ганна Жырко.

«Мы, дзеці, чалавек дванаццаць, пабеглі паглядзець, куды ж гэтых няшчасных павялі. Адзін «паліцман» усё на нас крычаў: куды вы, і вас пастраляюць. Тым часам габрэяў завялі за вёску, загадалі залезці ў магілу, а паліцаі насупраць сталі. Наперадзе стаў нямецкі афіцэр і нешта зачытаў, а потым загадаў страляць. Паліцэйскія з аўтаматаў расстралялі людзей. Пасля гэтага ахвяры яшчэ варушыліся, але афіцэр загадаў закапаць магілу. Мясцовыя жыхары, што прыйшлі з рыдлёўкамі, адмовіліся: казалі, людзі ж яшчэ жывыя. А паліцай ім: «Жадаеце побач ляжаць, зараз мы і вас тут пакладзем». Кроў там паўсюль была, зямлёй цяжка было прыкрыць. Што тычыцца паліцаяў, то там розныя былі. Некаторых немцы мабілізавалі сілай, а шмат хто сам ішоў. Вунь там хата раскіданая, дык ён сам пайшоў. «Паліцманы» па навакольных вёсках часта ездзілі, партызан шукалі. Але ж у нас, акрамя партызан і паліцаяў, яшчэ трэцяя сіла была — «куфэрнікі». Прыходзілі ўначы, ламіліся ў хаты: «Мы партызаны, адчыняй». І забіралі ўсё. Бацька, нябожчык, як з касцёла прыходзіў, то здымаў касцюм, боты-факстроты і трымаў побач з вакном. Як хто грукаў у хату ноччу, адразу выкідаў усё на вуліцу, каб не забралі», — успамінае Жыгімонт Абрамовіч.

«Яму габрэям капаў Зуй і яшчэ адзін мясцовы жыхар. Паліцаі іх пагналі туды. Дык Зуй, калі зразумеў, навошта капае роў, страціў прытомнасць», — кажа Ганна Жырко. Дарэчы, брат жанчыны таксама служыў у паліцыі, ці службе «Самаахowы», як яе называлі немцы. З-за гэтага сям'я хлопца вельмі баялася, што савецкія партызаны іх спаляць разам з хатай. «Маці хадзіла, прасіла немцаў, каб Янэка нашага не прызначалі на антыпартызанскія акцыі, каб ён проста быў у пастарунку ў Вольне. І немцы пайшлі ёй насустрач. Брат нават партызанам дапамагаў, аддаваў ім патроны, што немцы давалі. Але калі Саветы прыйшлі, то яму тую службу ўзгадалі. Далі 10 гадоў за супрацу з ворагам, і сядзеў брат у Комі ССР, а калі вызваліўся, то з'ехаў у Польшчу і там памёр. Дарэчы, у Ішкалдзі быў адзін, што пайшоў добраахвотна ў паліцыю. Звалі яго Альфрэд Лашчэўскі. Ён у канцы вайны збег з немцамі на Захад. Пасля вайны ў Ішкалдзь прыязджалі нейкія габрэі. Здаецца, з ЗША. Я ім паказвала гэтую магілу. Можа, гэта былі сваякі тых хлопцаў, што з'ехалі за мяжу», — расказвае Ганна Жырко.



Паліцаі



Па гэтай дарозе вялі на растрэл габрэяў



Партызан

## Злачынствы і пакаранне

У кнізе «Память. Баранавіцкі раён» змешчаны спіс ахвяр нацысцкіх акупантаў. Узгадваюцца там і габрэйскія сем'і з Ішкалдзі: Лея Гулько(віч), нарадзілася ў 1919 годзе; Вера (Вура) Гульковіч, нарадзіўся ў 1887 годзе; Хана Гульковіч, нарадзілася ў 1893 годзе; Ента Жук (1885); Ласка Жук (1914); Мірка Жук (1917). Менавіта гэтыя людзі былі расстраляныя ў 1942 годзе мясцовымі паліцэйскімі пад камандаваннем нямецкага афіцэра. На месцы, дзе знайшлі свой апошні прытулак жыхары Ішкалдзі, сёння няма ні помніку, ні мемарыяльнага знака.

Цяжка сказаць, ці былі пакараныя непасрэдныя выканаўцы гэтага злачынства. У снежні 1967 года ў Мінску ў Клубе імя Дзяржынскага адбыўся судовы працэс над чарговай групай памагатых нацыстаў, якія прымалі ўдзел у злачынствах супраць мясцовага насельніцтва Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны. На лаве падсудных тады аказалася больш за 10 калабарантаў, якія выконвалі розныя абавязкі ў Шталагу №337 у Баранавічах.

Частка гэтых людзей служыла ў паліцыі ў Баранавіцкай акрузе. Магчыма, нехта з іх «адзначыўся» і ў Ішкалдзі. Не выключана, што вінаватыя ў расстрэле дзвюх габрэйскіх сем'яў у Ішкалдзі праходзілі па следчай справе № 35075, якую вяло Упраўленне МДБ БССР у адносінах да былых жаўнераў 57-га ўкраінскага шума-батальёна. Знаходзячыся на тэрыторыі Беларусі ў мястэчку Гарадзішча, камандаванне гэтай часткі набірала ў свае шэрагі рэкрутаў з мясцовага насельніцтва. Нехта з гэтых людзей удзельнічаў у засадах на партызан, іншыя арыштоўвалі і канваявалі мясцовае насельніцтва.

У выніку большасць з былых паліцаяў атрымала па 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. У пасляваенны перыяд органы КДБ Брэсцкай вобласці пакаралі больш за 700 асоб, якія падчас нацысцкай акупацыі Беларусі са зброяй у руках супрацоўнічалі з нацыстамі на тэрыторыі Брэстчыны.

Што ж тычыцца трагедыі яўрэйскіх сямей, забітых у Ішкалдзі ў 1942 годзе, то спадзяюся, што на месцы іх гібелі будзе ўсталяваны памятны знак, а гэтая гісторыя дапоўніць жудасны летапіс Халакосту, які нацысты ажыццяўлялі на беларускай зямлі ў гады Другой сусветнай.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**

# Бяспашпартныя бадзягі ў БССР

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**У гады сталінскай кампаніі па барацьбе з «бязродным касмапалітызмам» канца 1940-х гадоў фраза «бяспашпартныя бадзягі» выкарыстоўвалася, каб закляйміць непажаданых інтэлігентаў (пераважна габрэяў) як «класава варожы элемент» і этнічных чужынцаў. Між тым, сталінскі рэжым сам ствараў бяспашпартных бадзяг без двукоссяў, і ў вялікай колькасці.**




**Гераіні гэтага артыкула ў нейкім сэнсе «пашанцавала»: яе накіравалі не ў ГУЛАГ, не ў высылку, не на спецпасяленне, а ўсяго толькі ў іншы раён БССР. Але яе высялялі з уласнага дома**

Народны суд 3 участка горада Менска (у той час афіцыйная назва горада была менавіта такой) 8 лютага 1935 года ў складзе народнага суддзі Манько, членаў-засядацеляў Шчаснай і Дудкоўскага пры сакратары Стрыгун разглядаў крымінальную справу Настассі Гарошка. 55-гадовую малапісьменную беспартыйную беларуску, «кулачку» з Драздоў, пазбаўленую выбарчага права, абвінавачвалі па частцы «б» артыкула 120-1 Крымінальнага кодэкса БССР.

Артыкул 120-1 у КК БССР з'явіўся незадоўга перад тым, 15 жніўня 1934 года, і гучаў наступным чынам:

«а) Паўторнае парушэнне ўстаноўленых правіл прапіскі пашпартоў або часовых пасведчанняў асобамі, якія прыязджаюць у мясцовасці, дзе ўведзена пашпартная сістэма, і маюць устаноўленыя дакументы, выклікае — папраўча-працоўныя работы да аднаго года;

б) пражыванне ў мясцовасцях, дзе ўведзена пашпартная сістэма, асоб, не маючых пашпарта або часовага пасведчання і ўжо падвергнутых адміністрацыйнаму спагнанню за гэтае парушэнне, выклікае — пазбаўленне свабоды да двух год».

Унутраныя пашпарты былі ўведзеныя ў СССР пастановай ЦВК і СНК СССР «Аб усталяванні адзінай пашпартнай сістэмы па Саюзе ССР і абавязковай прапіскі пашпартоў», прынятай 27 снежня 1932 года. Парадак выдачы (і нявыдачы) пашпартоў быў удакладнены пастановамі Саўнаркама СССР ад 14 студзеня і 28 красавіка 1933 года. Пашпарты выдаваліся «ўсім грамадзянам Саюза ССР ва ўзросце ад 16 год, якія стала пражываюць у гарадах, рабочых пасёлках, працуюць на транспарце, у саўгасах і навабудоўлях».

Такім чынам, магчымасці атрымаць пашпарт былі пазбаўленыя сяляне — як калгаснікі, так і аднаасобнікі. Гэта абмяжоўвала мабільнасць сялян, прывязвала іх да зямлі. Праз увод пашпартоў улады абмяжоўвалі ўцёкі сялян з вёскі, якая ў 1932–1933 гадах масава галадала, у горад. Адсутнасць пашпартоў у сялян часта параўноўваюць з прыгонным правам.

Да таго ж, буйныя гарады (уключна з Менскам) былі аднесеныя да рэжымных. Выдача пашпартоў у іх праводзілася выбарачна: пашпарты не выдавалі «кулакам», «лішэнцам» (людзям, пазбаўленым выбарчых правоў), «не занятым грамадска-карысным працай», былым зняволеным і сасланым, і іншым катэгорыям людзей, у якіх улады СССР бачылі патэнцыйных ворагаў. Да рэжымных былі аднесеныя і населеныя пункты ў 100-кіламетровай паласе ўздоўж заходняй мяжы СССР (а паколькі мяжа тады была пад Заслаўем, відавочна, да рэжымных быў залічаны і пасёлак Дразды). Як піша гісторык савецкай пашпартнай сістэмы Васіль Папоў, першапачаткова вынняткі дапускаліся ў дачыненні да тых не занятых «грамадска-карысных працай» і пазбаўленых выбарчых правоў асоб, якія былі ўраджэнцамі рэжымных мясцовасцей і пастаянна там жылі. Але вельмі хутка гэтая часовая «саступка» была адменена.




**Магчымасці атрымаць пашпарт былі пазбаўленыя сяляне — як калгаснікі, так і аднаасобнікі. Гэта абмяжоўвала мабільнасць сялян, прывязвала іх да зямлі**

Варта адзначыць, што ў Расійскай імперыі жорсткая пашпартная сістэма, якая рэзка абмяжоўвала свабоду перасоўвання, успрымалася як адна з праяў прыгнёту. У большасці краін Еўропы ўнутраныя пашпарты ў пачатку XX стагоддзя адсутнічалі, і на той час былі абавязковыя толькі для паездак за мяжу. Часткова гэта дзейнічае і сёння (для паездак унутры Еўразаюза грамадзянам яго краін неабходныя ідэнтыфікацыйныя карткі, а пашпарты не абавязковыя). У СССР 1920-х гадоў пашпартная сістэма была заменена легітымацыйнай сістэмай, пры якой асоба чалавека пры неабходнасці магла быць засведчана любым дакументам (напрыклад, прафсаюзным білетам або актавай выпіскай аб нараджэнні ці шлюбе), а рэгістрацыя па месцы жыхарства была правам, але не абавязкам.

Старыя бальшавікі ў 1932 годзе павінны былі адчуць сябе няёмка. Яны маглі прыгадаць напісаныя ў 1903 годзе словы Леніна з брашуры «Да вясковай беднаты (Тлумачэнне для сялян, чаго хочуць сацыял-дэмакраты)»: «Сацыял-дэмакраты патрабуюць для народа поўнай свабоды перасоўвання і промыслаў. Што гэта значыць: свабода перасоўвання? Гэта значыць, каб селянін меў права ісці куды хоча, перасяляцца куды заўгодна, выбіраць любую вёску ці любы горад, не пытаючы ні ў каго дазвол. Гэта значыць, каб і ў Расіі былі знішчаны пашпарты (у іншых дзяржавах даўно ўжо няма пашпартоў), каб аніводны ўраднік, аніводны земскі не смеў перашкаджаць аніякаму селяніну сяліцца і працаваць, дзе яму заўгодна. Рускі мужык настолькі запрыгонены яшчэ чыноўнікам, што не можа свабодна перавесціся ў горад, не можа свабодна сысці на новыя землі. Міністр распараджаецца, каб губернатары не дапускалі самавольных перасяленняў! Губернатар лепш за мужыка ведае, куды мужыку ісці! Мужык — дзіця малое, без начальства і зрушыцца не смее! Хіба гэта не прыгонная залежнасць?»

Праз трыццаць гадоў пасля напісання гэтых словаў сяляне СССР зноў думалі пра пашпартную сістэму: «Хіба ж гэта не прыгонная залежнасць?»

У прыгаворы суда запісана наступнае: «Дадзенымі матэрыяламі судовага следства ўстаноўлена, што падвіноўная не атрымала пашпарта, як кулачка, і не мае права без прапіскі пражываць у данай мясцовасці (пасёлак Дразды)». Настассю Гарошка прызналі вінаватай у злачынстве, прадугледжаным артыкулам 120-1 «б» КК БССР. Праўда, яе чамусьці (суд не ўказаў матываў для гэтага) не накіравалі ў зняволенне. Суд палічыў патрэбным падвергнуць яе «прымусоваму высяленню з данай мясцовасці ў двухтыднёвы тэрмін». Прысуд быў канчатковым і абскарджанню не падлягаў.

Цікава, што прызначаны судом двухтыднёвы тэрмін высялення не адпавядаў дзесяцідзённаму тэрміну высялення «кулакоў» ды іншых «непажаданых элементаў» з «рэжымных» мясцовасцей, які быў усталяваны «Інструкцыяй аб выдачы пашпартоў», зацверджанай пастановай Саўнаркама СССР №43 ад 14 студзеня 1933 года.

Гераіні гэтага артыкула ў нейкім сэнсе «пашанцавала», таму што яе накіравалі не ў ГУЛАГ, не ў высылку, не на спецпасяленне, а ўсяго толькі ў іншы раён БССР. Але яе высялялі з уласнага дому. Яна страчвала не толькі дах над галавой, але і мэблю, і сялянскі інвентар, які не магла забраць з сабою. Як магла адзінокая сталая жанчына асталявацца на новым месцы? Пра гэта нам невядома. Затое вядома, што яна стала не проста «кулачкай» і «лішэнкай», а яшчэ і судзімай.

Зразумела, што прыведзены прыклад асуджэння па артыкуле 120-1 — толькі адзін з соцень ці тысяч іншых, якія здарыліся ў БССР за час дзеяння артыкула. І калі ў дачыненні да Настассі Гарошка было ўжытае «прымусовае высяленне», то многія іншыя трапілі за краты. Паколькі накіраваны быў артыкул супраць бяспашпартных сялян, асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, «кулакоў» ды прадстаўнікоў іншых катэгорый, якія ўсяго толькі спрабавалі выжыць ці крыху больш выгодна ўладкавацца ў жыцці праз пераезд у горад ці праз працяг жыцця ў ім, ёсць усе падставы лічыць яго ахвяр пацярпелымі ад палітычных рэпрэсій.

Артыкул «Парушэнне пашпартных правіл» захаваўся і ў Крымінальным кодэксе БССР 1961 года. Як адзначаў Кранід Любарскі, вядомы выпадкі, калі па гэтым артыкуле ў СССР асуджалі дысідэнтаў.

Пастанова Вярхоўнага Савета Беларусі ад 6 чэрвеня 1991 года «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20–80-х гадоў» не ўключае артыкул 120-1 у пералік артыкулаў, асуджаныя па якіх падлягаюць рэабілітацыі. Гэты заканадаўчы недахоп неабходна выправіць, як неабходна і адшукаць імёны ўсіх асуджаных. Без іх пералік пацярпелых ад палітычных рэпрэсій у БССР 1930-х гадоў няпоўны.

# Дарыё Арджэнта: «Найгоршыя кашмары родам з дзяцінства»

Андрэй РАСІНСКІ

**Рукі маньяка ў чорных пальчатках, адбітак твару ў лужыне крыві, карлікі-пачвары і дзеці-забойцы, шымпанзэ з лязом і лялькі, што атакуюць, сабака-павадыр, які разрывае горла сляпому, дзяўчынкі-самнамбулы і спірытка, пасечаная мясніцкім нажом, — гэтымі шокавымі вобразамі дзеліцца з гледачамі Дарыё Арджэнта, жывы класік страшнага кіно.**





Італьянскі майстар кінабарочнага гвалту нарадзіўся ў 1940 годзе ў сям'і кінапрадзюсера і мадэлькі. Папрацаваўшы як кінакрытык і сцэнарыст (творца напісаў асобныя сцэны для фільму «Аднойчы на Дзікім Захадзе»), ён дэбютаваў у 1970 годзе як рэжысёр карцінай «Птушка з крышталёвымі крыламі». Стужка адразу займела поспех і разам з карцінамі «Кот з дзевяццю хвастамі» і «Чатыры мухі на шэрым аксаміце» склала «жывёльную трылогію», дзе дэтэктыўны сюжэт зухавата расквечваўся адсылкамі да свету фаўны.

Аслупянелыя савецкія крытыкі прыводзілі гэтыя фільмы як узорныя прыклады буржуазнага гніення. Асабліва камуністычных кінаідэолагаў абуралі выкшталцоныя сцэны гвалту і сюжэты, нанізаныя на дзіцячыя песенькі, малюнкі і сны.

Але фільмы Арджэнта — гэта класіка жанру giallo. Gialli (ад італьянскага «жоўты» — такія былі вокладкі крымінальных раманаў) — альбо крывава-жоўтыя фільмы — гэта італьянскія дэтэктывы, візуальна перанасычаныя, шыкоўныя, алагічныя, дзе сюжэт падпарадкоўваецца трызненням, а сцэны забойстваў пастаўлены як самадастатковае відовішча.

У крывава-жоўтых фільмах дзейнічае «чалавек без твару» — маньяк у скураных пальчатках, цёмным плашчы і насунутым на вочы капелюшы. Ён невядома адкуль прыходзіць і невядома куды знікае, нярэдка гэта жанчына. І нярэдка ахвяра сама з'яўляецца катам. Чалавека без твару ўвёў у італьянскае кіно Марыё Бава, а якраз сябар Дарыё Арджэнта зрабіў гэтага персанажа зусім інфернальным (стужка Арджэнта «Інфэрна» стала ўваходзіць у спісы лепшых хорараў).

Калі амерыканская традыцыя страшнага рацыянальная: там пануюць ветліва-падкалодныя вампіры і ціхмяныя шызафрэнікі, то традыцыя італьянская — ірацыянальная, візуальная, оперная, усцішная, як позірк Медузы Гаргоны. Гледачоў атакуюць не тэхаскія дзікуны з пілою, а сама культура: карціны ажываюць (фільм Арджэнта «Сіндром Стэндаля»), класічная архітэктура стаецца дэкарацыяй для самых страшных начных кашмараў (яго ж «Суспірыя»). Культура — гэта цёмны лес для зляканага дзіцяці.

Фільмы Арджэнта — гэта немагчымы позірк на немагчымае. Аўтакатастрофа здымаецца з хуткасцю 36 тысяч кадраў за секунду, куля пралятае праз дзверы (выкарыстоўвалася камера-эндаскоп), лязо прабівае сківу, і кончык ягоны тырчыць з рота, нож паўтыкаецца ў адкрытае сэрца, што б'ецца.

У фільме «Опера» маньяк ставіць на павекі герaіні іголкі, каб мы безупынна глядзелі, як ён забівае. Гераіня, разам з гледачамі, мусіць сысці ў кашмарны свет, адкуль няма вяртання.

У фільмах Арджэнта парадаксальна выкарыстоўвае оперную і рок-музыку. Урачыста-жорсткія мелодыі ён удала прасоўваў і як прадзюсер. Між іншым, Арджэнта фінансаваў стужку «Дэманы» Ламбэрта Бава (сына Марыё Бава) — і «Досвіткі мёртвых» Джорджа Рамэра (яшчэ адзін класік хорар-фільмаў).

Нельга сказаць, што цэнзура была ў захапленні ад стужак італьянскага майстра. Фільмы рэзаліся і скарачаліся. Абураны Арджэнта нават аднойчы расказаў журналістам адпаведны сюжэт: глядач помсціць, што цэнзары парэзалі любімы фільм ягонай памерлай жонкі — і жорстка забівае кожнага ўдзельніка цэнзурнага камітэту.

Але ў 1990-я гады творы Арджэнта былі кананізаваныя. Выйшла колькі кніг пра творы майстра.

Пад канец гэтага лістапада Арджэнта прыехаў на кінафэст у Лодзі — і прадставіў там свае класічныя фільмы: «Птушку з крышталёвымі крыламі», «Крывава-чырвонае», «Суспірыю» і «Феномены». На апошнім спатканні фэсту пашэнціла трапіць і аўтару гэтых радкоў.

Адзін з лодзкіх кінакрытыкаў параўнаў: спатканне з Арджэнта для аматараў хорару — гэта ўсё адно, што для каталіка спатканне з Папам. І сапраўды апладысменты залі.

Дарыё Арджэнта расказаў пра здымкі «Феноменаў». (У гэтай стужцы дзяўчынка мае тэлепатычны кантакт з інсектамі, якія дапамагаюць знайсці забойцу).

Фільм ствараўся ў Швейцарыі, а для здымкаў патрабавалася шмат мух. Машыну з інсектамі затрымалі на швейцарскай мяжы — і катэгарычна не хацелі пускаць у краіну, нягледзячы на ўсе дакументы. Тады ўрэшце ўмяшалася амбасада, каб развязаць гэтую праблему, — і мухі на здымачную пляцоўку ўсё ж такі трапілі.

Пасля здымак, якія скончыліся ў лістападзе, Арджэнта вырашыў мух выпусціць. «І вось пайшлі мы ў шынок, — расказвае рэжысёр, — там было горача, а ўся жырандоля была аблепленая мухамі». Гаспадар шынка ўвесь час лямантаваў, што гэта, відаць, канец свету, і штосьці дзеецца непапраўнае, а «мы сядзелі моўчкі, быццам гэта нас і не тычыцца».

На просьбу залі Арджэнта даў параду рэжысёрам:

«Калі казаць пра параду для кінематаграфістаў, якія здымаюць фільмы жахаў, то сістэма такая. Кіно ёсць кіно. Падыход, які прапаную, можна прымяніць да любога фільму: проста кіно вывучаць, аглядаць, у пэўным сэнсе прыняць і перапарваць, і толькі калі ў вялікай колькасці кіно ўвойдзе — тады выпусціць сваё бачанне і проста зрабіць фільм».

Чаго баіцца Дарыё Арджэнта?

«Маю столькі страхаў, што не ведаю, ад якога пачаць — і які вылучыць».

Чаму ў фільмах Арджэнта дзяцінства знітаванае з кашмарам?

«Здаецца, гэта таму, што найгоршыя кашмары, найгоршыя страхі родам з дзяцінства. Калі ўявім сабе сітуацыю маленькага дзіцяці ў ложку, ёсць цемра — і тады першасныя, глыбокія і самыя арыгінальныя кашмары нам сняцца, тады мы іх адчуваем. І яны, гэтыя кашмары, не звязаныя з чымсьці вонкавым, напрыклад, з тым, што друкуецца ў газетах. Таму гэта мяне так захапляе — гэтыя глыбокія страхі.

Таксама лічу, што дзеці — найлепшыя гледачы маіх фільмаў».

Дарослыя гледачы зладзілі авацыю.



***Шаноўныя чытачы!***

*Па віне рэдакцыі ў №44 на 10-й і 11-й старонках прадубляваліся подпісы пад фатаздымкамі ў матэрыяле Арсеня Ліса.*

*На старонцы 10-й пад групавым фотаздымкам павінен быць подпіс: «Ніжні шэраг, злева направа: Іван Ціішчанка, Арсень Ліс, Пётра Сергіевіч, Аляксей Гардзіцкі, Сцяпан Міско. Верхні шэраг злева направа: Алесь Траяноўскі, Алесь Яскевіч, Міхась Шушкевіч, Іван Чыгрын. Першая выстаўка прац Сергіевіча ў Мінску, 1963 год».*

*Прыносім прабачэнні ўсім чытачам і Арсеню Сяргеевічу Лісу асабіста.*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1144

Падпісана да друку 01.12.2017. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.